● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

13 ліпеня 1996 г. субота, № 177 (22980)



# ЗВЯЗДА

## АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ Ў ФРАНЦЫЮ

***Парыж, 11 ліпеня. ІНТЭРФАКС-ЗАХАД.* Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыбыў у чацвер з афіцыйным трохдзённым візітам у Парыж. У той жа дзень ён сустрэўся і правёў перагаворы з прэзідэнтам Францыі Жакам Шыракам.**

«Абодва прэзідэнты адзначылі, што ўзровень адносінаў палітычных, эканамічных і культурных недастаткова і што народы недастаткова добра ведаюць адзін аднаго», -- заявіў Ж. Шырак журналістам пасля сустрэчы. Па яго словах, «падпісанне ў Елісейскім палацы шырокамаштабнага дагавора аб дружбе, які робіць дзве краіны сяброўскімі, паклала пачатак развіццю якасна новых адносінаў паміж Беларуссю і Францыяй».

У ходзе перагавораў былі абмеркаваны пытанні еўрапейскай бяспекі. Абодва прэзідэнты канстатавалі падобнасць падыходаў у гэтай галіне, адзначыў Жак Шырак. Ён абяцаў Прэзідэнту Беларусі нанесці візіт у адказ, «калі гэта стане магчымым». У сваю чаргу А. Лукашэнка выказаў задавальненне тым, што «прэзідэнт Францыі пераканаўся, што ў яго краіне існуе скажонае ўяўленне аб праводзімай палітыцы беларускага кіраўніцтва».

Каменціруючы вынікі перагавораў, першы памочнік Прэзідэнта Беларусі Урал Латыпаў у інтэрв'ю «Інтэрфаксу» заявіў, што адносіны з Францыяй на Захадзе складваюцца прыблізна такія ж, як з Расіяй на Усходзе. У ходзе перагавораў, па яго словах, дасягнута дамоўленасць аб тым, што Францыя будзе спрыяць інтэграцыі Беларусі ў Еўрапейскі саюз.

У. Латыпаў таксама паведаміў, што пазіцыі прэзідэнтаў Беларусі і Францыі ў многім супалі па пытанню аб перспектывах НАТО. Жак Шырак, па словах Латыпава, сказаў, што «простае пашырэнне НАТО, якое стваралася ў процівагу СССР, не патрэбнае. НАТО трэба рэфарміраваць».

У ходзе сустрэчы ў пятніцу ў Парыжы з кіраўнікамі вядучых банкаў і прамысловых прадпрыемстваў Францыі беларускі Прэзідэнт выказаў меркаванне, што інтэграцыя Беларусі і Расіі мае самы высокі ўзровень на постсавецкай прасторы. Ён сказаў, што яна «прадугледжвае каардынацыю эканамічных рэформаў, паступовую уніфікацыю заканадаўстваў, правядзенне кансультацый па пытаннях знешняй палітыкі, словам, прыблізна тое ж, што адбываецца зараз у Еўропе ў цэлым». Разам з тым Прэзідэнт Беларусі прызнаў, што ў сваіх адносінах яго краіна і Расія не дайшлі яшчэ да такой ступені інтэграцыі, якую маюць дзяржавы Еўрапейскага саюза.

А. Лукашэнка заклікаў французскіх бізнесменаў рашуча размяшчаць інвестыцыі на Беларусі. Ён паведаміў, што разлічвае на прадастаўленне французскай крэдытнай лініі ў 200--300 мільёнаў долараў ад рэалізацыі праектаў французскіх кампаній у Беларусі. Буйнейшая ў Францыі дзяржаўная страхавая кампанія «КОФАС» заявіла аб гатоўнасці выступіць гарантам гэтага плана. За апошнія тры месяцы Беларусь паспела разгледзець тры інвестыцыйныя праекты ад фірмаў ЗША і Расіі на агульную суму ў 1,5 млрд. долараў. Усе названыя праекты ўжо рэалізуюцца, адзначыў А. Лукашэнка.

У пятніцу Прэзідэнт Беларусі сустрэўся з кіраўніком нацыянальнага банка Францыі К. Трышэ. З кампаніяй «Жэк-Альстом» падпісаны кантракт на пастаўку абсталявання для ЦЭЦ на суму 37,6 млн. долараў.

У суботу Аляксандр Лукашэнка наведае шэраг сельскагаспадарчых прадпрыемстваў на поўначы Францыі. У той жа дзень чакаецца яго вяртанне ў Мінск.

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

## ПАЦЯРПЕЎШЫЯ АД ВЫБУХУ ЖЫВУЦЬ У ГАСЦІНІЦАХ

«Звязда» паведамляла ўжо аб выбуху ў пяціпавярховым доме на вуліцы Пралетарскай ў Мазыры, калі загінулі і былі паранены некалькі чалавек.

Як стала вядома, версія аб выбуху ў выніку ўцечкі газу практычна пацвердзілася. Высветліліся таксама і памеры разбурэнняў падчас здарэння — моцна пацярпеў адзін лесвічны пралёт праз усе пяць паверхаў з кватэрамі, што там знаходзяцца, крыху менш выбуховая хваля закранула другі. Пацярпеўшыя сем'і — а гэта некалькі дзесяткаў чалавек — перасялены ў гасцініцы, дзе будуць жыць за кошт гарадскога бюджэту да таго часу, пакуль не будзе адрамантавана іх жыллё. Гарадскія ўлады зараз шукаюць сродкі, каб кампенсаваць пацярпеўшым матэрыяльны ўрон.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***Увага: ПРАМАЯ ЛІНІЯ***

## Сямён ШАРЭЦКІ адкажа на вашы пытанні

**16 ліпеня з 14 гадзін Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Георгіевіч Шарэцкі будзе праводзіць прамую лінію і адказа на пытанні чытачоў газеты «Звязда». *У гэты дзень пытанні можна будзе задаць непасрэдна Сямёну Георгіевічу па тэлефонах: (0172) 32-38-21, 32-38-92.* Папярэдне пытанні кіраўніку заканадаўчай галіны ўлады можна пераслаць у пісьмовым выглядзе па пошце на адрас рэдакцыі або пазваніўшы супрацоўнікам нашай газеты па тэлефонах:**

***(0172) 68-27-57, 68-28-69.***



**Лельчыцкія карункі.** **Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкага на закрыцці першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

Паважаныя калегі! Заканчваецца першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання. Што можна сказаць, падводзячы вынікі?

Па-першае, самі выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання паклалі пачатак новаму этапу развіцця дэмакратыі ў нашай рэспубліцы. Выбары дэпутатаў нашага склікання (у адрозненне ад выбараў дэпутатаў усіх папярэдніх скліканняў) праходзілі на шматпартыйнай аснове. Людзі ўпершыню мелі магчымасць сустрэцца з кандыдатамі ў дэпутаты розных поглядаў і выбраць дэпутатам аднаго з некалькіх, а не проста прагаласаваць за таго, каго вызначылі зверху. А гэта ў сваю чаргу (акрамя сказанага аб пашырэнні дэмакратыі ў час выбараў) накладвае на кожнага з нас павышаную адказнасць, бо мы занялі тое месца, на якое прэтэндавалі і іншыя. Пераважная большасць з іх таксама былі дастойнымі кандыдатамі. Але людзі паверылі нам. І гэтым даверам мы абавязаны даражыць.

Па-другое, у сувязі з тым, што выбары дэпутатаў праходзілі на шматпартыйнай аснове, зразумела, у Вярхоўным Савеце цяперашняга склікання (зноў жа ў адрозненне ад папярэдніх скліканняў) утварыліся і працуюць пяць фракцый. І гэта, як паказала практыка, таксама вялікі крок у дэмакратызацыі палітычнай сістэмы нашай рэспублікі.

Фракцыі — гэта тое звяно ў рабоце парламента, дзе тыя ці іншыя палітычныя погляды атрымліваюць арганізацыйнае афармленне і параўноўваюцца з іншымі поглядамі. У выніку такога параўнання, якое суправаджаецца часцей за ўсё палемікай, знаходзіцца найбольш аптымальнае рашэнне, што ў сваю чаргу станоўча адбіваецца на прыняцці законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета. Больш таго, наяўнасць фракцый не дае магчымасці нейкай групе дэпутатаў ці аднаму дэпутату надоўга адвесці парламент у бок абмеркавання аднаго пытання, каб набыць палітычны капітал.

Так, вазьміце, у Вярхоўным Савеце дванаццатага склікання разборам пытанняў карупцыі было прысвечана больш за дзесяць пасяджэнняў. І ўсё гэта скончылася тым, як вы ведаеце, што многія з названых асноўнымі карупцыянерамі цяпер працуюць ва ўрадзе, у структурах Прэзідэнта і гэтак далей.

А колькі палітыканства было ў некаторых дэпутатаў — прадстаўнікоў БНФ. Дарэчы, у Вярхоўным Савеце дванаццатага склікання гэта была адзіная арганізаваная фракцыя. Таму яна часам, па сутнасці, беспярашкодна праводзіла сваю палітыку. У той жа час (і мы ў гэтым упэўніліся на практыцы нашага склікання Вярхоўнага Савета) пры наяўнасці многіх фракцый зрабіць гэта ўжо няпроста, бо прадстаўнікі іншых фракцый не дазваляюць скарыстоўваць трыбуну парламента ў папулісцкіх мэтах.

Па-трэцяе, што мне хацелася б адзначыць, — гэта тое, што ў цывілізаваным грамадстве ўсё сістэматызавана і арганізавана. А злучэнне ідэалогіі з пэўнай арганізацыяй — гэта і ёсць партыя. Таму цывілізаванае грамадства, дзе забяспечваецца свабода думак (без чаго не можа быць і свабоды асобы), можа быць толькі шматпартыйным. А калі так, то і ў парламентах будучых скліканняў заўсёды будуць фракцыі.

У сувязі са сказаным лічу, што ў наш Закон аб Вярхоўным Савеце трэба будзе ўнесці папраўку і зрабіць фракцыі афіцыйнымі структурамі заканадаўчага органа. Дарэчы, я ў гэтым яшчэ больш упэўніўся пасля некалькіх нашых сустрэч з парламентарыямі Расіі.

Чацвёртае, што я хацеў бы адзначыць, — гэта тое, што сваю работу цяперашні Вярхоўны Савет пачаў з разгляду вельмі

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

***«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН» — 68-28-72***

## У «БУМАЖКОЎЦАЎ» НА ЖЫЦЦЁ — 15 ПРАЦЭНТАЎ АД КРАСАВІЦКАГА ЗАРОБКУ

З Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці рэдакцыю патурбавалі даяркі калгаса імя Бумажкова — выдалі 15 працэнтаў ад красавіцкага заробку. Жывіце, хадзіце ў краму... Мо на тыдзень тых грошыкаў і хопіць.

Быў і званок з Нясвіжскага педвучылішча, што, маўляў, гэта толькі ў газетах запазычанасць настаўнікам выплачваюць... А на справе ў Нясвіжскім педвучылішчы і на чэрвень не выдалі зарплату, і пра адпускныя забыліся. Мы пацікавіліся са свайго, рэдакцыйнага, боку (а пасля гэта пацвердзіў і званок з таго ж Нясвіжа): зарплату ў педвучылішчы днямі павінны выплаціць.

У калгасе імя Калініна Крупскага раёна за сакавік толькі адной брыгадзе выдалі зарплату. Астатнім — нічога. Што рабіць?.. Калгаснікі не бастуюць, не мітынгуюць. Па-ранейшаму спяшаюцца на ферму, у поле. Хутка і ўраджай збіраць. А грошы вось калі яны пачнуць атрымліваць?..

Магчыма (а ў сельскай гаспадарцы найболей уражлівыя прыклады затрымкі зарплаты), недзеяздольным калгасам лепей прызнацца ў сваім банкруцтве? Мо тады людзі самі пачнуць шукаць іншыя шляхі для заробку, для выжывання, чым бясплатная калгасная падзёншчына?..

**Разумеючы, што званкоў з калгасаў, саўгасаў па нявыплаце зарплаты можа быць у тысячу разоў болей, чым мы іх канстатуем, «Звязда» звярнулася ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання з просьбай пракаменціраваць фінансавую сітуацыю ў галіне. Падрабязная гутарка на гэтую тэму — у адным з наступных нумароў «Звязды».**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***... ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

## СУМА ЗАПАЗЫЧАНАСЦЕЙ ПА ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ НАСТАЎНІКАЎ ЗНОЎ РЭЗКА ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ

Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» загадчыца аддзела абароны эканамічных і прафесійных інтарэсаў Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Гняздзілава, зараз агульная запазычанасць па заработнай плаце настаўнікаў складае 139 мільярдаў рублёў, з якіх 46,8 — запазычанасць па чэрвеньскаму заробку. Па абласцях гэтыя лічбы выглядаюць наступным чынам: Гомельская — 32,55 мільярдаў, з іх за чэрвень — 9,68; Магілёўская — 30,6, за чэрвень — 12; Віцебская — 20,95 (8,17); Гродзенская — 13,2 (4,13); Брэсцкая — 5,53, за чэрвень пагашана поўнасцю; Мінская — 30,1 (каля 10); па горадзе Мінску — 6 (2,7). Такім чынам, можна зрабіць вывад аб тым, што ёсць настаўнікі, якія не атрымалі не толькі грошай на адпачынак, а і заробку за чэрвень.

Па словах Валянціны Гняздзілавай, пачалася сапраўдная «другая хваля» росту запазычанасці, звязаная з адыходам у адпачынак настаўнікаў, якія заставаліся на працы. Як стала вядома, намеснік міністра фінансаў Анатоль Сверж паабяцаў, што ў бліжэйшы час будзе выдзелены крэдыт у памеры 150 мільярдаў на зніжэнне запазычанасці па заработнай плаце работнікам бюджэтнай сферы. Будзем спадзявацца, што настаўнікі не застануцца без грошай гэтым нялёгкім летам.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## НАВУКА — «ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ» ПАДЧАРКА?

Ці можна выратаваць ад уздзеяння радыяцыі нашых людзей, узнавіць пасля Чарнобыля беларускую зямлю, калі шляхі для гэтай высакароднай работы не будзе пракладваць навука? Для кожнага свядомага грамадзяніна рэспублікі такое пытанне, можа, здаецца і дзіўным, і проста надуманым. Тым не менш, у нашай знявечанай «мірным» атамам краіне такі падыход, аказваецца, таксама «мае месца»...

Гэта — адна з галоўных думак, што прагучала ўчора на прэс-канферэнцыі на тэму: «Навуковае забеспячэнне пераадолення вынікаў катастрофы на ЧАЭС», якую правялі ў грамадскім прэс-цэнтры Беларускага Дома друку першы намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях Ігар Ралевіч, дырэктар Інстытута радыебіялогіі акадэмік АН Беларусі Яўген Канапля, іншыя навукоўцы і спецыялісты.

Можна, зразумела, здзіўляцца, калі ўдумаешся ў лічбу: на навуковае забеспячэнне вырашэння чарнобыльскай праблемы дзяржава «адваліла» ў гэтым годзе ажно... 0,7 працэнта ад агульнага кошту ўсёй дзяржпраграмы. Аднак здзіўляцца няма чаму: у структурах улады сёння ўжо чуюцца безапеляцыйныя выказванні: навука ў чарнобыльскіх пытаннях — гэта лішняе...

У наступным нумары «Звязда» мяркуе больш падрабязна асвятліць кола праблем, узнятых у час учарашняй сустрэчы навукоўцаў і журналістаў.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

***Сенат Злучаных Штатаў Амерыкі***
***Вашынгтон***
***3 чэрвеня 1996 года***
***Спадару Сямёну ШАРЭЦКАМУ***
***Рэспубліка Беларусь, Мінск***
***Дом урада***

Паважаны спадар Старшыня,

было вельмі міла з Вашага боку сустрэцца са мной. Я высока цаню гэтую дадзеную магчымасць.

Таксама я вельмі ўдзячны Вам за падарунак з Мінска.

Пасля сустрэчы з Вамі я меў гутарку з сенатарам ад штата Каларада спадаром Хэнкам Браўнам, які з'яўляецца галоўным прыхільнікам пашырэння НАТО. Я прапанаваў дадаць умову для новых членаў НАТО — не мець на сваёй тэрыторыі ядзернай зброі.

Ён сустрэў з сімпатыяй гэтую ідэю, а што да мяне, то я буду вывучаць яе далей.

Такім чынам, Ваш візіт можа мець вельмі станоўчы ўплыў на сітуацыю ў цэнтральнай Еўропе.

Спадзяюся, што нашыя шляхі яшчэ перасякуцца ў будучым.

Шчыра Ваш,

**Пол САЙМАН, сенатар ЗША.**

# ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. Г. ШАРЭЦКАГА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

цяжкага пытання — прыняцця бюджэту рэспублікі. Гэта пытанне было разгледжана на працягу двух, а не пяці, як некаторым падалося, месяцаў. Усяго ж за час першай сесіі, як вы ўжо бачылі (гэта адзначана ў прынятай намі заяве), было праведзена 99 пленарных пасяджэнняў і разгледжана 282 пытанні. Прынята 54 законы і больш за 214 пастаноў. На працягу паўгода адбылося 11 пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага савета, на якіх было абмеркавана 247 пытанняў, прынята 224 пастановы. Усё гэта гаворыць аб тым, што Вярхоўны Савет за мінулы перыяд працаваў прадуктыўна. Больш таго, я як Старшыня Вярхоўнага Савета хацеў бы адзначыць высокую грамадзянскую адказнасць дэпутатаў, іх прафесіяналізм, здольнасць адмовіцца ад сваіх інтарэсаў у імя агульнай справы. Прыняўшы законы аб адказнасці за парушэнне Канстытуцыі і іншых законаў, дэпутаты паказалі сваю палітычную сталасць. (Апладысменты).

Некаторыя казалі і нават агітавалі, што, маўляў, нельга прымаць гэтыя законы, паколькі Прэзідэнт іх не падпісвае. Я заўсёды пытаўся: дык што, тады трэба прыняць закон аб безадказнасці за невыкананне Канстытуцыі і законаў?

Ці можа ў прававым грамадстве ўзнікаць такое пытанне? Я думаю, людзям, якія ўяўляюць сабе прававое грамадства, і ў дурным сне не можа прысніцца такое, каб можна было парушаць Канстытуцыю, законы.

Па-пятае, такая канструктыўная праца Вярхоўнага Савета дазволіла на працягу першага паўгоддзя падысці да самых складаных пытанняў — пытанняў рэфарміравання эканомікі. Я спадзяюся, што створаная намі камісія сумесна з выканаўчай уладай, а таксама вучонымі, вопытнымі практыкамі распрацуе навукова абгрунтаваную канцэпцыю рэформаў з улікам дасягнутага ўзроўню развіцця вытворчых сіл, структуры, якая склалася, і ўзроўню канцэнтрацыі вытворчасці, а таксама менталітэта самога нашага народа.

І я вам, паважаныя калегі, за ўсё гэта вельмі ўдзячны, бо гэта палягчала маю працу як старшынствуючага. Кіраваўся Вярхоўны Савет у сваёй працы толькі адным — інтарэсамі свайго народа і сваёй суверэннай дзяржавы, якая носіць гордае імя: Рэспубліка Беларусь.

Ці былі недахопы ў працы Вярхоўнага Савета цяперашняга склікання? Так, зразумела, былі такія недахопы. Яны, відаць, і будуць. А каб іх было менш, давайце, паважаныя калегі, не будзем на сябе нагаворваць і паліваць сябе брудам. Давайце будзем уносіць канструктыўныя прапановы па ўдасканаленню працы Вярхоўнага Савета. Толькі ў гэтым выпадку мы будзем працаваць на аўтарытэт Вярхоўнага Савета, а гэта значыць і кожнага з нас.

І апошняе. У сувязі з тым, што ў друку з'явіліся розныя ацэнкі майго мінулага выступлення, хачу падкрэсліць, што яно было прадуманым, можа, больш таго — выпакутаваным і, як мне падаецца, узважаным.

Не ўступаючы ў нейкую палеміку, хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць, што Вярхоўны Савет — гэта не нейкі гнайнік на целе грамадства, а, згодна з Канстытуцыяй, самы высокі прадстаўнічы, пастаянна дзеючы (і я гэта хачу асобна адзначыць) і адзіны заканадаўчы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь. (Апладысменты). Гэта канстытуцыйнае правіла... (Апладысменты). А гэта значыць, што рэспубліка ні аднаго дня не можа быць без Вярхоўнага Савета. Рашэнне спыніць сваю працу датэрмінова Вярхоўны Савет можа прыняць толькі сам на падставе пастановы толькі самога Вярхоўнага Савета, прынятага большасцю не менш чым дзве трэці ад абраных дэпутатаў. І больш нікому такое права не дадзена ў адпаведнасці з нашай Канстытуцыяй.

А спыненне склікання сесіі ў будучыя паўтара месяца ні ў якім разе не азначае спынення працы Вярхоўнага Савета. Хтосьці з дэпутатаў будзе ў адпачынку, астатнія будуць працаваць. Будуць працаваць камісіі, рэгулярна будзе працаваць Прэзідыум. Мяркую, што будуць збірацца на свае пасяджэнні і фракцыі. У абавязковым парадку будзе працаваць створаная Часовая камісія па выпрацоўцы эканамічнай палітыкі. Пры патрэбе можа быць склікана і нечарговая сесія Вярхоўнага Савета, калі гэта спатрэбіцца.

Паважаныя дэпутаты, час летніх парламенцкіх канікулаў, калі ласка, выкарыстоўвайце для авалодання беларускай мовай. Я мяркую, што мы наступную чарговую сесію пачнём на беларускай мове. (Апладысменты).

Такім чынам, першае пасяджэнне другой сесіі будзе праходзіць 3 верасня, паколькі гэта будзе першы аўторак ў верасні, у 10 гадзін раніцы.

Яшчэ раз вялікі вам дзякуй за агульную працу. (Апладысменты).

## ХРОНІКА «БАЗАРНЫХ» ДЗЁН

Гэта, напэўна, адзінае дзіця ў свеце, у якога адначасова тры бацькі.

Украіна, Расія і Беларусь штогадова ўносяць своеасаблівыя «аліменты» на правядзенне фестывалю «Славянскі базар». У трох нянек дзіця расце з добрым апетытам, і размах яго цікавасцей пашыраецца год ад году: то дыска-базар яму патрэбен, то кіно, а сёлета фестываль гумару і прэсы падавай. Чаго толькі не зробіш для любімага гарэзніка, нават калі ва ўласным бюджэце адны дзіркі.

Вытрымаўшы пяць гадоў, сёння заснавальнікі думаюць пра адзіную традыцыю — зрабіць жыццё фестывалю вечным. Сапраўды, з чыста славянскім размахам! Такім чынам, наднацыянальнае дзіця, народжанае ў Віцебску, набірае ход.

Напачатку была настальгія па мінулым, нягледзячы на тое, што на ўрачыстым адкрыцці ўвесь час гаварылі пра будучыню. Да ўспамінаў пра былое прыклалі намаганні і беларускія артысты. Сваё заслужанае месца — за раялем — заняў Ігар Лучанок, які ў свой час меў дачыненне да нараджэння «Славянскага базару». А яго песні прыгадалі «Сябры», «Засвяціліся» на адкрыцці і «Верасы» са сваім неўміручым «Караванам», які, мяркуючы па колькасці ўдзельнікаў гурта, становіцца ўсё карацейшым. Старыя добрыя песні гучалі ў выкананні ўкраінскіх і расійскіх спевакоў.

І яшчэ адна традыцыя, якая пачалася ў мінулым годзе. Павітаўшыся кожны на сваёй мове, пастаянныя вядучыя з украінскага і беларускага боку перайшлі на рускую мову. Магчыма так ім душа падказала. А з душой спрачацца немагчыма, асабліва калі яна славянская.

Такім чынам, на адкрыцці ў Віцебску гучалі старыя песні. Пра галоўнае.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**
г. Віцебск.

## ТРАНСПАРТ МАСКВЫ СТАНОВІЦЦА АБ'ЕКТАМ ТЭРОРУ

Яшчэ не паспелі масквічы аправіцца ад шоку, выкліканага тэрарыстычным актам у метро, у выніку якога загінулі і атрымалі цяжкія раненні многія нявінныя людзі, як 11 ліпеня, ясным сонечным днём, у цэнтры сталіцы ля гарадскога тэлеграфа прагрымеў яшчэ адзін выбух. Выбуховае ўстройства спрацавала ў тралейбусе дванаццатага маршруту, што належыць першаму тралейбуснаму парку. На шчасце, на гэты раз ахвярамі сталі толькі пяць пасажыраў, трое з якіх шпіталізаваны. Вельмі пацярпеў вадзіцель тралейбуса, якому жанчына сталага ўзросту перадала сумку з агароднінай, быццам бы забытую адным з пасажыраў. У сумцы і знаходзілася выбуховае ўстройства, якое спрацавала, як толькі тралейбус крыху ад'ехаў. У тралейбусе выбітыя шыбы, знесена частка даху. Па шчасліваму выпадку, у салоне тралейбуса, які заканчваў маршрут на Пушкінскай вуліцы, было ўсяго некалькі пасажыраў. Маскоўская міліцыя шукае злачынцаў.

## НОВЫЯ АХВЯРЫ ТЭРАРЫЗМУ Ў МАСКВЕ

Немагчыма апісаць стан панічнага страху і безабароннасці ў масквічоў перад разгулам бандытызму ў расійскай сталіцы. Новая страшная вестка аб тэракце абляцела ўчора ўвесь горад за лічаныя хвіліны.

На гэты раз выбух прагучаў на праспекце Міру недалёка ад Рыжскага вакзала. Выбуховае ўстройства разы ў два мацней за папярэдняе было падкладзена пад сядзенне ў сярэдзіне салона тралейбуса 48-га маршруту. Яно спрацавала ў 8 гадзін 14 хвілін раніцы. Гэта — гадзіна «пік».

У сярэдзіне дня стала вядома з афіцыйнай крыніцы: пацярпелі 26 чалавек. Адзін з іх памёр ад ран. Некалькі чалавек знаходзяцца ў цяжкім стане. Паранены і вадзіцель тралейбуса Юрый Антонаў. Дарэчы, у яго быў апошні працоўны дзень перад выхадам на пенсію.

Паўторны тэракт на транспарце стаў яшчэ адным галаўным болем мэра сталіцы Юрыя Лужкова і прэзідэнта Ельцына. Сёння Ельцын тэрмінова падпісаў указ аб мерах па узмацненню барацьбы з тэрарызмам, а Юрый Лужкоў звярнуўся да жыхароў горада з просьбай дапамагаць супрацоўнікам міліцыі ў рабоце па прафілактыцы тэрарызму, паведамляць аб падазроных рэчах, пакінутых на транспарце.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

**P. S.** Па стану на 17 гадзін па маскоўскаму часу 8 чалавек знаходзілася ў рэанімацыйным аддзяленні інстытута хуткай дапамогі імя Скліфасоўскага, астатнія — у апёкавым аддзяленні таго ж інстытута.

Урачы змагаліся за жыццё пацярпелых, а па горадзе папаўзлі панічныя чуткі, што знойдзены яшчэ тры выбуховыя ўстройствы ў раёне станцыі метро «Новаслабадская» і Сушчоўскага вала.

***РЭХА ПАДЗЕЙ***

# ПАЛІТЫКІ СЫХОДЗЯЦЬ — ДЗЯРЖАВА ЗАСТАЕЦЦА

**Традыцыйна ва ўсім свеце ліпень — месяц палітычнага зацішша. Аднак у Беларусі ў 90-х гадах менавіта з гэтым гарачым летнім месяцам звязаны значныя палітычныя ўзрушэнні. 27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі — зроблены першы крок да самастойнага існавання краіны. 10 ліпеня 1994 года быў абраны першы Прэзідэнт дзяржавы.**

На мінулым тыдні другая гадавіна з дня перамогі Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах стала прыкметнай падзеяй. Гэта дата — своеасаблівы пункт адліку, арыенцір, з якім народ міжволі звярае цяперашнюю сітуацыю ў краіне з тымі перспектывамі, якія былі абазначаны ў перадвыбарных выступленнях кандыдата ў Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі ўвесну і ўлетку 1994 года.

Сённяшняя рэчаіснасць больш красамоўна, чым любыя аналітычныя артыкулы і эмацыянальныя прамовы, — сведчыць пра тое, якімі былі гэтыя два гады для нашай краіны. Аднак факт і тое, што значная частка насельніцтва гэтыя выпрабаванні вытрымала цярпліва і з разуменнем. Рэйтынг Прэзідэнта сярод насельніцтва амаль усе два гады трымаўся на даволі высокім узроўні.

Першыя гады прэзідэнцтва паказалі, што Аляксандр Лукашэнка застаўся верны свайму асноўнаму прынцыпу, у многім дзякуючы якому ў свой час прыйшоў да ўлады. Прэзідэнт дзейнічае ў поўнай адпаведнасці з уяўленнямі, ідэаламі, стэрэатыпамі, каштоўнаснымі арыенцірамі большасці беларускага насельніцтва. Гэты падыход пануе і ў знешняй і ва ўнутранай палітыцы — у дачыненні да такіх прынцыпова важных праблем, як прыватызацыя, развіццё банкаўскай сферы, валютнае рэгуляванне, права прыватнай уласнасці на зямлю, узаемаадносіны з іншымі галінамі ўлады і г. д.

Прынцыповы недахоп такога падыходу — у тым, што грамадская думка далёка не заўсёды прыхільна ставіцца да сапраўды эфектыўных, дзейсных механізмаў эканамічнага рэфарміравання. У выніку тыя палітыкі, якія ўзвальваюць на свае плечы асноўны цяжар адказнасці за рэформы, вымушаны хутка сыходзіць з палітычнай сцэны (згадаем Ягора Гайдара ў Расіі ці Лешака Бальцаровіча ў Польшчы).

У Беларусі сваіх Гайдараў і Бальцаровічаў не было і няма. Магчыма, таму няма і тых паказчыкаў эканамічнага росту, якія ўжо назіраюцца ў Польшчы і Расіі.

Але ў такой сітуацыі ёсць і станоўчы для ўлады бок. Беларускаму насельніцтву няма каго абвінавачваць у сённяшніх складанасцях і адставанні ад суседзяў. На практыцы ў краіне ажыццяўляецца той курс, якога патрабавала большасць. На каго ж дзьмуцца? На Прэзідэнта? Але ж ён нават калі і памыляўся, і вагаўся, то толькі — разам з народам.

Сацыялагічныя апытанні сведчаць, што гэта шчырасць і бясхітрасная тактыка Аляксандра Лукашэнкі па-ранейшаму ў цане сярод яго прыхільнікаў. Значная частка народа ўпэўнена: Прэзідэнт праводзіць правільную, «народную» палітыку, якая ім зразумелая і ім падтрымліваецца. Але пры гэтым з часам у сілу зусім зразумелых абставінаў паўстае і іншае пытанне: «Хто ж у такім разе вінаваты, што жыццё не становіцца лепшым?» Адказ кожны шукае сам. Многія з аднадумцаў Прэзідэнта прыходзяць да высновы, што вінавата акружэнне кіраўніка дзяржавы, якое замінае яму...

І яшчэ адно назіранне. Як вядома, Аляксандр Лукашэнка ніколі не быў «незалежнікам» і не адстойваў ідэалы незалежнай Беларусі. Аднак, калі параўнаць многія яго цяперашнія выказванні і прамовы двухгадовай даўнасці, прыходзіш да парадаксальнай высновы. Два гады таму словы «дзяржава» і «краіна» ў дачыненні да Беларусі ім амаль не выкарыстоўваліся. Дамінавала прывычнае з савецкіх часоў — «рэспубліка». Цяпер жа статус Беларусі як незалежнай краіны і дзяржавы ўсяляк падкрэсліваецца і прапагандуецца. Прычым гэта тэндэнцыя з благаславення цэнтра распаўсюдзілася на ўсе ўзроўні ўлады.

Такая эвалюцыя радуе і абнадзейвае. Урэшце, ва ўсіх нас, незалежна ад палітычных сімпатый і поглядаў, — адна Бацькаўшчына. Калі захаваеш яе для нашчадкаў у выглядзе незалежнай дзяржавы — яны даруюць нам многія цяперашнія памылкі, і, не сумняваюся, лепш за нас распарадзяцца гэтай спадчынай.

У гэтым сэнсе ў Аляксандра Лукашэнкі застаецца шанц увайсці ў гісторыю дзяржавы ў якасці яе першага Прэзідэнта, які, нягледзячы на выпрабаванні лёсу і палітычныя спакусы, перадасць свайму паслядоўніку кіраванне незалежнай дзяржавай, роўнай сярод роўных у сусветнай супольнасці. Ужо за адно гэта многае даруецца.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

У мінулым годзе **57 працэнтаў усіх грашовых расходаў** сям'і прыходзілася на прадукты харчавання, на нехарчовыя тавары ішло толькі 22 працэнты.

**Кожны чацвёрты** чалавек, які загінуў у Беларусі на вытворчасці ў момант няшчаснага выпадку, **знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.**

Першы ў гэтым годзе масавы выпадак **атручэння грыбамі** зафіксаваны ў Новаваронежы: ахвярамі сталі адразу сем чалавек.

Крэдыты Нацбанка, выдадзеныя ўраду ў гэтым годзе, у асноўным накіроўваліся на **правядзенне сельскагаспадарчай пасяўной кампаніі** і на аплату працы работнікаў бюджэтнай сферы.

У вялікіх гарадах нашай рэспублікі **зямельны ўчастак мае** кожная другая сям'я, у малых — каля 63 працэнтаў сем'яў, **у сярэднім па рэспубліцы** гэты паказчык складае 68,5 працэнта.

**Каля 2 мільярдаў долараў** знаходзяцца на руках у насельніцтва і не працуюць на эканоміку.

**Сотні тон папяровых грошай** часоў Савецкага Саюза **замураваны глыбока пад зямлёй** у кастрамскіх лясах у час рэкультывавання ракетных шахтаў стратэгічнага прызначэння.

# БАРАЦЬБА ЗА «НАРОДНУЮ ГАЗЕТУ» ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пастановы аб назначэнні на пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газеты» Леаніда Юнчыка 12 ліпеня а 10 гадзіне раніцы ў рэдакцыю «НГ» прыехалі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, старшыня падкамісіі па СМІ Аляксандр Дабравольскі, член гэтай камісіі Вячаслаў Герасіменка і новаазначаны рэдактар Леанід Юнчык. Павінна было адбыцца прадстаўленне новага галоўнага рэдактара калектыву. Аднак, як вядома, згодна з прэзідэнцкім указам «Народная газета» пераўтвараецца ў закрытае акцыянернае таварыства і яго кіраўніком і рэдактарам «НГ» назначаны Міхаіл Шыманскі. Дэлегацыю з Вярхоўнага Савета акрамя Шыманскага сустрэлі начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Падгайны і прадстаўнік юрыдычнай службы гэтай адміністрацыі Аляксандр Пласкавіцкі. Пазней да перагавораў падключыліся члены рэдкалегіі «Народнай газеты». Перагаворы ішлі за зачыненымі дзвярыма, праходзілі яны напружана, ніхто, хто падчас іх выходзіў з-за рэдактарскіх дзвярэй, не хацеў даваць каментарыяў. Праз гадзіну ад пачатку гэтай нарады кабінет рэдактара пакінуў Генадзь Карпенка, у якога была запланавана іншая сустрэча ў Вярхоўным Савеце...

І толькі пасля заканчэння гэтых перагавораў прадстаўнікі бакоў згадзіліся пракаменціраваць іх вынікі і становішча спраў вакол «Народнай газеты» на 12 ліпеня.

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ:**

— Нам было заяўлена аб тым, што Прэзідэнт выдаў указ і пакуль ён не адменены, то рэдактарам газеты павінен быць Міхаіл Шыманскі. Аднак пастанова Вярхоўнага Савета была прынята да ведама, цяпер прадстаіць працэдура перадачы спраў, якая павінна быць звязана з рашэннем некаторых юрыдычных пытанняў, якія ўсё ж тут існуюць. Такая пазіцыя, што ўказ Прэзідэнта валодае вышэйшай юрыдычнай сілай, выказаная М. Шыманскім, прама супярэчыць здароваму сэнсу, асновам юрыдычнай граматнасці... Існуе агульны прынцып: калі ўказ супярэчыць закону ці Канстытуцыі, то ён не дзейнічае. Прымаць рашэнне аб рэарганізацыі газеты без ведама яе заснавальніка паводле закона аб друку немагчыма. Могуць рыхтавацца дакументы па акцыяніраванню, але гэта не можа адбывацца без ведама заснавальніка, з гэтым згадзіліся нават работнікі адміністрацыі. Для таго, каб стварыць акцыянернае таварыства, неабходна афарміць усе дакументы, што не такі ўжо просты працэс, і зарэгістраваць яго. Указам акцыянернае таварыства не можа быць створана, бо законам прадугледжаны спецыяльны парадак стварэння акцыянерных таварыстваў. Указ толькі прадэклараваў стварэнне такога ЗАТ, па-сутнасці толькі выказаны намер гэтага. У прынцыпе Генадзь Карпенка выказаўся за тое, каб газета была акцыяніравана, было б лепш, каб усе газеты станавіліся ўсё болей самастойнымі, а не дзейнічалі пад жорсткім кіраўніцтвам галін улады... Наступны нумар «Народнай газеты» будзе пакуль падпісваць Шыманскі, а як толькі ім будуць перададзены справы новаму рэдактару, газету будзе падпісваць рэдактар, прызначаны Вярхоўным Саветам...

**Аляксандр ПЛАСКАВІЦКІ:**

— Пакуль Прэзідэнт ва ўладнай іерархіі стаіць крыху вышэй за астатнія галіны ўлады, то і акт, які ён выдаў, вышэйшы, чым пастанова Вярхоўнага Савета. Парадаксальнасць жа гэтай сітуацыі ў наступным. Прынятая парламентам пастанова ў сілу не ўступіла. Згодна арт. 54 Закона аб Вярхоўным Савеце, пастанова ВС, якая не носіць нарматыўнага характару, уступае ў сілу з моманту, які ўказваецца Вярхоўным Саветам, а не з моманту прыняцця, як лічыў Г. Карпенка. Таму пакуль Вярхоўны Савет не збярэцца на другую сесію і не прыме рашэнне аб тым, з якога моманту ўступае ў сілу гэтая пастанова, яна ў дзеянне не ўступіць. Акрамя гэтага, для таго, каб Л. Юнчык стаў галоўным рэдактарам «НГ», патрэбна, каб ва ўстаноўленым законам парадку быў адменены ўказ Прэзідэнта і каб быў вызвалены ад займаемай пасады чалавек, які сёння выконвае абавязкі галоўнага рэдактара «Народнай газеты»... З моманту абрання Прэзідэнта ў адносінах да Вярхоўнага Савета і яго органаў цалкам уступіла ў дзеянне Канстытуцыя 1994 года. Паводле гэтай Канстытуцыі Прэзідыум Вярхоўнага Савета не мае права выдаваць акты, падобныя да Часовага статута «Народнай газеты», таму з гэтага моманту гэты статут перастаў існаваць і дзейнічаць у адпаведнасці з 146 артыкулам Канстытуцыі. Таму на сённяшні дзень ніякага заснавальніка ў «НГ» па-сутнасці не існавала...Толькі прэзідэнцкім указам быў пачаты працэс стварэння рэдакцыі «НГ» як асобнага прадпрыемства ў форме ЗАТ. Гэта не пратакол аб намерах, як казаў Дабравольскі, любое стварэнне ЗАТ не з'яўляецца аднамомантным актам, спачатку прымаецца рашэнне аб стварэнні, потым ідзе рэгістрацыя акцыянернага таварыства, потым рэгістрацыя яго папер. Указ з'яўляецца толькі пачаткам гэтага працэсу. На сённяшні дзень ЗАТ «Народная газета» існуе, але яно пакуль недзеяздольнае.

Такім чынам, як бачым, бакі пакуль засталіся пры сваіх інтарэсах. Аляксандр Дабравольскі заначыў, што ён даложыць аб усім Сямёну Шарэцкаму, што будуць ужыты крокі, каб увесці пастанову ў дзеянне. Спрэчка за права ўласнасці на «Народную газету» і за рэдактарскае крэсла працягваецца. Вядзецца яна пакуль юрыдычнымі і палітычнымі метадамі, а не сілавымі. Гэта, відаць, галоўнае.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## КАЛІ Ў КВАТЭРЫ НЯМА ЗГОДЫ

*Добры дзень, «Звязда»!*

*Я жыву з бацькам у кааператыўнай кватэры. Маю дзіця. Галоўны кватэраздымшчык бацька. Адносіны з ім не ладзяцца. Ці магу я афарміць раздзяленне асабовых рахункаў на кватэру, калі не з'яўляюся кватэраздымшчыкам? Спадзяюся на адказ.*

**КАВАЛЁВА Т., г. Орша**

Такое пытанне звычайна ўзнікае ў сувязі са спрэчкамі паміж членам кааператыва і былымі членамі яго сям'і аб парадку карыстання жылым памяшканнем кватэры.

Неабходна адзначыць, што члены сям'і кватэраздымшчыка, у тым ліку і былыя, што працягваюць жыць у адным жылым памяшканні, маюць роўныя правы карыстання з членам кааператыва жылым памяшканнем.

Але гэта права параджае і абавязак аплачваць эксплуатацыйныя расходы за займаемае імі памяшканне (ці частку памяшкання), а таксама расходы за камунальныя паслугі (арт. 59 Прыкладнага статута ЖСК). Таму афарміць гэта ў прынцыпе ў ЖЭС можна. Калі згоды паміж тымі, хто жыве ў кватэры, па гэтых пытаннях няма, то яны могуць быць вырашаны ў судовым парадку.

## «ДАБРО» ДАЕ МЫТНЯ

*Прыгналі з-за мяжы аўтамабіль. Але ж ездзіць на ім можа толькі той, на каго ён запісаны. У натарыяльнай канторы сказалі, што даверанасць могуць даць толькі маці сыну, маці — дачцэ, жонка — мужу, г. зн. сваякам. І ніякага выйсця не параілі. Можа ваша газета што параіць праз «Пытальнік»?*

**З павагай КАСЦЮЧЭНКА І. П.**

Ваша машына не «растаможана». Таму, у адпаведнасці з абзацам 1 п. 39 Пастановы Кабінета Міністраў РБ ад 10.01.1996 г. аб унясенні змен і дапаўненняў у палажэнне аб парадку перамяшчэння фізічнымі асобамі рэчаў праз мытную граніцу РБ, не дапускаецца на працягу 2 гадоў з моманту мытнага афармлення адчужэнне аўтамабіля ці перадача ва ўладанне ці ў карыстанне іншым асобам, за выключэннем перадачы ў карыстанне членам сям'і асобы, якая ўвезла транспартны сродак. Калі вас гэта не задавальняе, можаце ўнесці плату ў памеры 5 ЭКЮ (прыкладна 1,3 долара ЗША) за адзін см$^3$ аб'ёму рухавіка ўвезенага аўтамабіля, ці заплаціце мытную пошліну, падатак на дабаўлены кошт (20 працэнтаў ад кошту аўтамабіля) і іншыя падаткі, і тады маеце права распараджацца аўтамабілем. Такія меры прадыктаваны эканамічнай палітыкай.

## ПАПРАЦУЙ, БАЦЬКА, ХОЦЬ ПАЎГОДА...

*Нялёгка зараз жывецца мнагадзетным сем'ям. Але чаму ж тады не ўсім ім выплачваецца грашовая дапамога на дзяцей?*

**Г. ПАЗНЯК,**
**г. п. Гарадзея, Нясвіжскі раён.**

Сапраўды, чаму, у чым тут прычына. На гэта пытанне адказвае начальнік аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны В. Ладыжанка:

— Паведамляем вам, што, згодна з Палажэннем аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей (разд. III, п. 42), калі бацька ў поўнай сям'і не працаваў больш за 6 месяцаў у год, які папярэднічаў звароту за дапамогай, то яна на дзяцей у бягучым годзе не назначаецца і не выплачваецца.

## СПАЧАТКУ ПАТРЭБНА ПРАШЭННЕ АСУДЖАНАГА

*Я падала ў адпаведную інстанцыю прашэнне, каб памілавалі асуджанага сына. Не разумею, чаму там не задаволілі маю просьбу?*

**Н. М., Верхнядзвінскі раён.**

З Галоўнага ўпраўлення па выкананню пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў адказалі так:

— У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку ажыццяўлення памілавання грамадзян, асуджаных судамі Рэспублікі Беларусь, Камісія па пытаннях грамадзянства і памілавання разглядае звароты сваякоў асуджанага толькі пры наяўнасці прашэння аб памілаванні самога асуджанага, якое накіроўваецца ў Камісію ва ўстаноўленым законам парадку праз адміністрацыю ўстановы, дзе ён знаходзіцца.

У дадзеным выпадку такое прашэнне ад асуджанага паступіла адміністрацыі ўстановы пасля растлумачэння яму вышэйўказанага палажэння. Пасля афармлення неабходных дакументаў матэрыялы будуць накіраваны ў Камісію па пытаннях грамадзянства і памілавання. А ўжо яна вырашыць: задаволіць просьбу ці адмовіць.

## АДГУКНІЦЕСЯ, ІНА АЛЯКСАНДРАЎНА!

Паважаная Іна Аляксандраўна з Гродзенскай вобласці Карэліцкага раёна! Калі ласка, адгукніцеся, бо ў рэдакцыю прыходзяць пісьмы на ваша імя. Людзі жадаюць дапамагчы вашай дачцэ.

## КОЛЬКІ МАЮЦЬ ДЗЕЦІ-СІРОТЫ?

*Які памер грашовай дапамогі для дзяцей-сірот, што выхоўваюцца ў дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах?*

**Марыя Іванаўна ТАЛОЧКА, г. Мазыр.**

Адказ прадстаўлены спецыялістамі аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з ростам цэн на адзенне, абутак, мяккі інвентар і абсталяванне Міністэрства фінансаў і Міністэрства адукацыі і навукі РБ зацвердзілі з 1 студзеня 1996 года новыя грашовыя нормы матэрыяльнага забеспячэння дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў.

Для выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў усіх тыпаў з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў (рублёў):

**На аднаго выхаванца дашкольнага ўзросту**

Сярэдні кошт першапачатковага абмундзіравання **7.100.000**

Сярэдняя норма на штогадовую дапамогу **4.600.000**

**На аднаго выхаванца школьнага ўзросту (для хлопчыкаў)**

Сярэдні кошт першапачатковага абмундзіравання **8.000.000**

Сярэдняя норма на штогадовую дапамогу **4.530.000**

**На аднаго выхаванца школьнага ўзросту (для дзяўчынак)**

Сярэдні кошт першапачатковага абмундзіравання **8.100.000**

Сярэдняя норма на штогадовую дапамогу **4.650.000**

Для студэнтаў вышэйшых і вучняў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, залічаных на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне, сярэдні кошт штогадовай дапамогі 4 мільёны 650 тысяч рублёў.

Для выхаванцаў дзяцей у дзіцячых дамах сямейнага тыпу і апекунскіх (прыёмных) сем'ях на харчаванне, набыццё абутку, адзення, мяккага інвентару, прадметаў гаспадарчага карыстання, асабістай гігіены, гульняў, кніг, а таксама на культурна-масавую работу з 1 студзеня 1996 года выдзяляюцца штомесячныя грашовыя сродкі, памер якіх вызначаецца памнажэннем прыведзеных ніжэй каэфіцыентаў на ўстаноўлены памер мінімальнай зарплаты:

**На адно дзіця дашкольнага ўзросту**

У першы год выхавання дзіцяці **7,0**
Другі год выхавання і наступныя гады **6,0**

**На адно дзіця школьнага ўзросту**

У першы год выхавання дзіцяці **9,0**
Другі год выхавання і наступныя гады **8,0**

Для дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў усіх тыпаў устаноўлена норма выдаткаў на набыццё гаспадарчага інвентару, прадметаў асабістай гігіены, гульняў, цацак, кніг для бібліятэк і на культурна-масавую работу 675 тысяч рублёў на аднаго выхаванца ў год. З гэтых сродкаў дзецям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў, што знаходзяцца ва ўказаных установах, на асабістыя выдаткі выдаецца 120 тысяч рублёў у год на аднаго чалавека. Выдача грошай ажыццяўляецца, як правіла, штомесячна з разліку 10 тысяч рублёў у месяц.

Рэктары вузаў і дырэктары сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў сумесна з органамі самакіравання штогод аказваюць са стыпендыяльнага фонду, а таксама сродкаў, прадугледжаных на ўтрыманне гэтых навучальных устаноў, матэрыяльную дапамогу студэнтам і вучням з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, у памеры да дзвюх мінімальных заработных плат.

## КУДА ПАДЗЕЦЬ МАКУЛАТУРУ?

*Як чалавек цікаўны я выпісваю шмат часопісаў і газет. За некалькі гадоў «збораў» пакункі паперы ўжо няма куды складваць. Раней за макулатуру можна было атрымаць дэфіцытны тавар. Што рабіць з ёй цяпер, выкідваць?*

**Алена МАЦЕЙ, г. Мінск.**

І праўда, калі вы жывяце ў горадзе, праблема выкарыстання другаснай сыравіны будзе паўставаць перад вамі пастаянна. Гэта адбываецца таму, што, напрыклад, у Мінску больш як паўсотня пунктаў прыёму другаснай сыравіны працуе вельмі рэдка. Гэта адбылося з-за таго, што прадпрыемствы, якія перапрацоўваюць сыравіну, не расплачваюцца своечасова з «Мінсккаапуторрэсурсы». У выніку гэтае ведамства не можа прымаць матэрыялы ў поўным аб'ёме ад насельніцтва. Аднак, калі вам усё ж пашанцавала і вы знайшлі адкрыты прыёмны пункт, дык за кілаграм макулатуры вам заплацяць 500 рублёў, ануч — 600, металалому — да 300 рублёў, каляровых металаў — да 3 тыс. рублёў, гумы і пластмасы — да 400 рублёў за кілаграм.

## ЗА АБЛІК МОЖНА І «РАЗЛІЧЫЦЦА»

*Паважаны «Пытальнік»!*

*У нас цяпер шмат з'явілася месцаў на вуліцах, дзе гандлююць садавінай і гароднінай. Я заўважаў (ды і не адзін я), што прадаўцы часта абважваюць на 20—30 г (а то і больш) ці аблічваюць пакупнікоў. Няўжо закон у адносінах да такіх «прадпрымальнікаў» бяздзейнічае?*

**З павагай, МАХАНЬКО Ф.М., г. Барысаў.**

Закон не бяздзейнічае. Асобы, якія дапускаюць такія правапарушэнні, могуць быць прыцягнуты як да адміністрацыйнай, так і да крымінальнай адказнасці. Артыкул 144 К РБ аб АП прадугледжвае за парушэнне правілаў гандлю і аказанне паслуг асобамі ў сферах гандлю, грамадскага харчавання і аказання паслуг незалежна ад формаў уласнасці суб'екта гаспадарання накладанне штрафу да 10 мінімальных заработных плат. Калі гэтыя дзеянні не ўтрымліваюць саставу злачынства, напрыклад, у сілу малазначнасці. Калі ж указаныя правапарушэнні нясуць у сабе ўсе прыкметы грамадска небяспечнага дзеяння (працягваюцца сістэматычна, сталі промыслам, у буйных памерах і г. д.), то адказнасць наступае па арт. 153 КК РБ. Гэты артыкул прадугледжвае за абмерванне, абважванне, аблік, перавышэнне ўстаноўленых рознічных цэн ці іншы падман пакупнікоў розныя віды пакарання: штраф, пазбаўленне права займацца пэўнай дзейнасцю ці займаць пэўныя пасады, папраўчыя работы аж да пазбаўлення волі, — калі злачыннае дзеянне ўчынялася па папярэдняй змове групай асоб ці ў буйных памерах, а таксама асобай, раней судзімай за тыя ж злачынствы. Таму ў такіх выпадках, калі няма часу і жадання станавіцца Шэрлакам Холмсам і паведамляць у кампетэнтныя органы, нагадайце прадаўцу пра гэтыя артыкулы закона. Глядзіш і задумаецца.

## ТАЙНА «МУЖЧЫНСКАЙ» ХВАРОБЫ

*У апошні час муж стаў прыкметна нервавацца. Ноччу больш за тры разы ходзіць у туалет. Можа ён захварэў? Дапамажыце парадай.*

**Таццяна К., г. Пінск.**

Апісаныя сімптомы назіраюцца ў хворых адэномай прастаты (пухліна, якая сціскае мочаспускальны канал). Гэта, бадай, самае масавае мужчынскае захворванне. Яно, як правіла, сустракаецца ў палавіны мужчын пяцідзесяцігадовага ўзросту. К 80 гадам амаль 90 працэнтаў мужчын пакутуюць ад гэтай хваробы. Існуе некалькі метадаў яе лячэння: аперацыя, мікрахвалевая тэрапія ці медпрэпаратамі. Тут самае галоўнае, каб пацыент звярнуўся да ўрача на ранняй стадыі захворвання. Пры аператыўным лячэнні пацыент папраўіцца. На позняй стадыі ўжо існуе пэўная небяспека. Калі жанчына пераканае свайго мужа, каханага ці партнёра ў тым, што ў візіце да уролага няма нічога страшнага, бяду можна прадухіліць.

## НЕ ПРАДУГЛЕДЖАНА ЗАКАНАДАЎСТВАМ

*Растлумачце, калі ласка, чаму мне не выплацілі кампенсацыю за нявыкарыстаную пуцёўку ў санаторый ці дом адпачынку?*

**Л. ШАХНОЎСКАЯ,**
**в. Праскурні, Жлобінскі раён.**

— Справа вось у чым, — паведаміў загадчык аддзела сацыяльнай абароны Жлобінскага раённага выканаўчага камітэта Г. Паўлаў. — Выплата кампенсацыі за пуцёўку былым вязням фашысцкіх канцлагераў і іншых месцаў прымусовага ўтрымання дзеючым заканадаўствам не прадугледжана.

## ВАЙНА СУПРАЦЬ ТЛУШЧУ НЕ ЗАЎСЁДЫ КАРЫСНАЯ

*Чула, што ў прадуктах харчавання, якія выраблены на Захадзе, замест жывёльнага тлушчу прымяняюцца штучныя заменнікі. Ці не шкодна гэта для здароўя?*

**Ганна КАЗАК, г. Пінск.**

Многія людзі на Захадзе баяцца халестэрыну. Таму прадукты з нізкім утрыманнем тлушчаў там цяпер карыстаюцца павышаным попытам. Харчовая прамысловасць імкнецца замяніць жывёльныя тлушчы рэчывамі з аналагічнымі смакавымі якасцямі.

Прымяненне іх для здароўя больш бяспечнае. Але любы гурман вам скажа, што абястлушчаныя прадукты не такія смачныя і адрозніваюцца ад натуральных не ў лепшы бок. Як бачым, халестэрынавая рэвалюцыя аказалася не ва ўсіх адносінах ідэальнай. У гэтай сувязі трэба дадаць, што вядучыя медработнікі развітых краін цяпер пацвярджаюць: ужыванне дзецьмі ў раннім узросце жывёльнага тлушчу змяншае рызыку захворвання на рак грудной залозы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

**Выпуск падрыхтавалі: Іван БРАЛКА, Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей КУРКАЧ, Віктар ШЧУЧЭНКА.**



*Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА*

*ГРОШЫ*

## БАНКАЎСКІЯ ШЭРАГІ РАДЗЕЮЦЬ. ІНШЫМ «НЕПАСЛУХМЯНЫМ» УСТАНОВАМ ПРЫПЫНЯЕЦЦА ДЗЕЯННЕ ЛІЦЭНЗІЙ...

**Апошнія падзеі ў банкаўскай сферы, калі многія банкі робяць крокі насустрач адзін аднаму і аб'ядноўваюцца, а іншыя фінансавыя ўстановы ліквідуюцца, сведчыць аб тым, што фінансісты ўсё больш задумваюцца аб будучым. Банкі, якія не ў стане ўжо канкурыраваць на рынку фінансаў, паціху сыходзяць са сцэны. Так і не здолеўшы перасячы ўстаноўленую мяжу па нарошчванню статутнага фонду да 2 мільёнаў ЭКЮ, рашэннем Нацбанка ліквідуюцца «Магнатбанк», АКБ «Садружнасць», АКБ «Дукат», АКБ «Беларускі крэдыт», АКБ «Інтэкс». Дарэчы, акрамя невыканання гэтымі банкамі патрабаванняў па статутнаму фонду, ім «інкрымінуюцца» яшчэ і шматлікія парушэнні законаў, якія датычаць банкаўскай сферы. Некаторыя з іх не забяспечвалі своечасовага выканання прынятых на сябе абавязацельстваў перад крэдыторамі, не выконвалі абавязковыя эканамічныя нарматывы, якія ўстанаўліваў галаўны банк. Карацей, «зорная» кар'ера для іх ужо скончана.**

Больш жорсткую пазіцыю ў адносінах да яшчэ некалькіх банкаў зноў-такі заняў Нацыянальны банк. Як удалося нам высветліць у Нацбанку, пад яго пільную ўвагу трапілі такія ўстановы як «Корпабанк», «Абсалютбанк», «Навакам», мінскі філіял «INKO» і «Рассвет». У прыватнасці, за розныя парушэнні банкаўскага заканадаўства, а таксама за недавядзенне статутнага фонду да 2 мільёнаў ЭКЮ для АКБ «Корпабанк», АКБ «Навакам» і АКБ «Абсалютбанк» прыпынена дзеянне ліцэнзій на здзяйсненне банкаўскіх аперацый у частцы прыцягнення сродкаў ва ўклады ад фізічных асоб.

Больш сціплае патрабаванне, улічваючы яго спецыфічнасць, вылучана для банка «Рассвет». Яму прадпісана да 1 студзеня наступнага года давесці свой статутны фонд да памера, які быў бы эквівалентны 1 мільёну ЭКЮ. Калі ж гэта патрабаванне не будзе выканана, то банк будзе пазбаўлены магчымасці працаваць з фізічнымі асобамі.

Што датычыць мінскага філіяла АБ «INKO», то, як нам паведамілі, у ходзе яго праверкі таксама былі выяўлены парушэнні. Як мера пакарання для яго выбрана забарона да канца года здзяйсняць аперацыі па куплі-продажу наяўнай валюты фізічнымі асобамі.

Ну, а цяпер апошняя навіна, якая пры вялікай зацікаўленасці грамадзян у захоўванні сваіх інтарэсаў, закранае кожнага ўкладчыка розных банкаў. Справа ў наступным. Галоўным банкам рэспублікі ўведзена ў дзеянне новая рэдакцыя «Палажэння аб гарантыйным фондзе абароны ўкладаў і дэпазітаў фізічных асоб». Цяпер, пачынаючы з чэрвеня, размер у дадзены фонд ад сумы прадоўжаных укладаў замест ранейшых 0,3 працэнта будзе складаць 0,1 працэнта. Крайні размер укладу грамадзян, які належыць кампенсацыі, застаўся нязменным: ён устаноўлены ў суме, эквівалентнай 2.000 долараў. Пагадзіцеся, для фізічных асоб з сённяшнімі даходамі грошы ўпаўне дастатковыя, каб не хвалявацца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ПАГРОЗА ЗДАРОЎЮ ЧАКАЕ ВАС НА ЛАТКАХ

**Пераход рэспублікі да рынычных адносінаў і ўзросшая ўдзельная вага прадуктаў харчавання, рэалізуемых праз рынкі і дробнарознічную гандлёвую сетку, ускладнілі эпідэміялагічную сітуацыю ў краіне па захворванню на вострыя кішэчныя інфекцыі.**

За мінулы перыяд 1996 года работнікамі санэпідслужбаў горада Мінска на адміністрацыйна-адказных работнікаў было складзена 4832 пратаколы аб санітарных парушэннях, вынесена 3204 пастановы аб штрафах (у тым ліку па харчовых аб'ектах дзяржгандлю — 756, па аб'ектах камерцыйнага гандлю — 1054) на суму 1.097.395.000 рублёў. У следчыя органы на суб'ектаў гаспадарання перададзена 5 спраў. Санэпідэмслужбай забракавана 39.992 кг харчовай прадукцыі. Дзейнасць 221 аб'екта дзяржгандлю і 94 аб'ектаў камерцыйнага была прыпынена. Акрамя таго, у выніку абследавання дзейнасці 2820 камерцыйных кропак 11 з іх пазбаўлены права гандлю.

Але, нягледзячы на гэта, паляпшэння сітуацыі пакуль не прадбачыцца. Сведчаннем таму — вынікі апошняй выбарачнай рэйдавай праверкі. У разрад небяспечных тавараў на гэты раз трапілі ўсім добра вядомыя па рэкламных роліках кава «SELECT», жавальная гумка «Dirol plus», раствaральны напой «Yupi», мыла «Duru» і «Safequard», крэм для рук «Cami1», зубная паста «Blend-a-med», дэзадарант «DEO» і іншая прадукцыя.

Так што, паважаныя спадары, не спяшайцеся набываць такія тавары па даступных цэнах у дробнарознічнай сетцы, папярэдне не запатрабаваўшы дакумент, які засведчыць іх якасць; таму што значок вядомай фірмы, якая гарантуе высокую якасць прадукцыі, і якасць менавіта гэтага тавару могуць не супадаць...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# З ЦУКРАМ У ХАТНІХ ГАСПАДЫНЬ ПРАБЛЕМ НЕ БУДЗЕ

**Мяркуючы па надвор'ю, што ўсталявалася апошнім часам, неяк не верыцца, што на двары — сярэдзіна лета. Напэўна, адзінае месца зараз, дзе ў гэта пачынаеш верыць, — рынак. Якіх толькі дароў прыроды тут няма: чарніцы, клубніцы, суніцы, чорныя і чырвоныя парэчкі... Але, як вядома, дзе шмат ягад, там патрэбен цукар, з якім у папярэднія сезоны перыядычна ўзнікамі цяжкасці.**

Як запэўнілі карэспандэнта газеты ва ўпраўленні арганізацыі спажывецкага рынку харчовых тавараў Міністэрства гандлю, сёлета такой праблемы не павінна ўзнікнуць наогул. У прыватнасці, органам упраўлення гандлю ўжо даведзены кантрольныя аб'ёмы цукру для продажу насельніцтву і патрэб прамысловай перапрацоўкі на трэці квартал бягучага года. Фірмай, якая займаецца забеспячэннем краіны гэтым прадуктам харчавання, ужо завезены з Бразіліі тры цеплаходы сыравіны, якая накіравана на перапрацоўчыя прадпрыемствы.

Зразумела, не застанущца ўбаку і шматлікія дробныя камерцыйныя фірмы, якія і зараз «шчыруюць» на гэтай ніве. Словам, былі б грошы — і праблем з цукрам у гаспадынь не ўзнікне.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# НАВЕДАЦЬ СЯБРОЎКУ Ў РАДЗІЛЬНЫМ ДОМЕ

**Нямнога ў нашым жыцці прысутнічае момантаў, пры думцы аб якіх сэрца пачынае заміраць. Адзін з іх — з'яўленне на свет дзіцяці. Калі ўсе хваляванні і трывогі за блізкага табе чалавека застаюцца ў мінулым, ты накіроўваешся ў радзільны дом, каб хоць разочак убачыць шчаслівую маму, «падкарміць» яе перадачкай кілаграмаў з дзесяць і, калі пашанцуе, палюбавацца праз акно нованароджаным. А мінуты чакання, як вядома, вельмі цяжкія...**

Дзякуй Богу, што час, калі прарвацца да парадзіхі было раўназначна подзвігу, мінуў. «Бярлінская сцяна», як кажуць, рухнула, і сваю жонку, дачку ці сяброўку цяпер можна ўбачыць літаральна на наступны дзень пасля нараджэння дзіцяці. Ва ўсякім разе, такі парадак дзейнічае ў мінскім радзільным доме № 2 па вуліцы Бельскага. Аднак, як ні сумна канстатаваць, спробы «наблізіцца» да Захаду ў нас не вельмі ўдаюцца. Па-першае, той факт, што дзіця пакідаюць з мамай цяпер праз пару гадзін пасля родаў, асаблівага аптымізму новаспечаным мамам не ўсяляе. Абстаноўка ў палаце, у якой знаходзіцца 2-3 крыклівыя дзіцяці, прычым, не паспее адзін закончыць сваю арыю, як другі тут жа яе падхоплівае, і гэтак цэлыя суткі, расслабіцца і адведаць радасць мацярынства відавочна не дазваляе.

Таму пасля пяці дзён, праведзеных у раддоме, мамы з радасцю і аблягчэннем адбываюць «на адпачынак» дадому. Да і пасля ваннаў, якія нованароджаныя прымаюць, «зручна» размясціўшыся на руцэ ў мамы пад бальнічным кранам, хатнія ўмовы з купаннем дзіцяці ў ванначцы здаюцца амаль асалодай. Ну, а калі каму-небудзь прыйдзе ў галаву праведаць маму ў раддоме, адарвацца ад свaёй кравіначкі той будзе вельмі складана, таму што мацярынскае сэрца будзе разрывацца паміж кінутым дзіцем і сваім наведвальнікам.

Зрэшты, і яму дабрацца да яе не так ужо і проста. У прынцыпе, каб дасягнуць мэты, існуе некалькі шляхоў. Па-першае, можна доўга і цярпліва дазвоньвацца да радзільнага аддзялення па ўказаным у вестыбюлі тэлефоне. А калі вам усё ж адкажуць, высветліцца, што тэлефон дзейнічае толькі адзін на два паверхі, а таму нікога з чацвёртага паверха да вас не запросяць. Па-другое, можна паспрабаваць перадаць запіску з жанчынай, якая разносіць перадачы. Калі, вядома, у вас ёсць час чакаць, а чакаць можна хвілін сорак. Ну, а калі сустрэча з гэтай адзінай нітачкай, якая звязвае радзільнае аддзяленне са знешнім светам, адбудзецца, то зусім не выключана, што вам прыйдзецца нарвацца на грубасць. Па-трэцяе, існуюць «чорныя хады» для «пэўных асоб»: хто больш смелы, спрабуе самастойна ўстанавіць кантакт, без запрашэння бясстрашна накіроўваючыся на трэці-чацвёрты паверхі да сваіх сябровак. Там на самай справе больш шанцаў, каб цябе нарэшце пачулі.

А калі пашанцуе — зможаш нават на пару мінут прарвацца ў палату. Праўда, трэба падрыхтавацца да таго, што твае дзеянні могуць быць пакараны, а таму, калі цябе «застукаюць» на месцы здарэння, трэба маўчаць і не абурацца, а толькі шчыра раскайвацца. Ну, а калі першы, другі і трэці спосабы не спрацоўваюць, застаецца толькі адно — хадзіць па вестыбюлі і шукаць суседку тваёй сяброўкі па паверху. Затое гэта верны спосаб, што сувязь будзе ўстаноўлена і доўгачаканая сустрэча ўсё-такі адбудзецца. І вось тады вам стане вядома, што нядрэнна было б прынесці сваёй сяброўцы начную кашулю і халат, таму што бальнічныя маюць вельмі ўжо нерэспектабельны выгляд, а таксама прыхапіць з сабой сякія-такія лекі (напрыклад слабіцельнае, або медыкаментозныя сродкі для прафілактыкі трэшчын на сасках), таму што адкуль ім, на самай справе, узяцца ў бальніцы, ну, і, натуральна, (гэта ўжо дакладна ваша недаравальная памылка!) прынесці з сабой ...талерку і лыжку, бо ў адваротным выпадку сяброўцы пагражае застацца без абеду: дэфіцыт у радзільным доме назіраецца не толькі з лекамі і бялізнай, але і з посудам у тым ліку.

Наогул, горшай за бясплатную медыцыну можа быць толькі бясплатная медыцына.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ...НАРЫХТАВАЦЬ НА ЗІМУ ВАРЭННЯ

**Кажуць людзі: «Што летам нарыхтуеш, тым зімою пашчыруеш». Сапраўды, ліпень — лету сярэдзіна, пачатак самых салодкіх летніх нарыхтовак — варэнняў.**

У гэты час гарадскія рынкі становяцца Меккай для мінчан. Адны наведваюцца сюды, каб паглядзець тавар, але большасць ідзе па суніцы ці чарніцы. Асноўная маса народа едзе на Камароўку. Цана суніц на галоўным рынку розніца роўна ў 10 разоў у залежнасці ад якасці і аб'ёму. Так кошт адных вагаецца ад 15 да 18 тысяч «зайчыкаў» за кіло. Выгляд іх не вельмі прывабны, але для варэння прыдатныя. Калі вам трэба суніцы для замарозкі, то прыйдзецца раскашэліцца на 150—180 тысяч за 12-літровае вядро. Ягады — адна ў адну, і вы будзеце задаволены, калі ваш настрой не «атруціць» пусты кашалёк. Суніцы яшчэ не прадаюць кілаграмамі і вёдрамі. А 250-грамовая шклянка лясных суніц абыдзецца вам у 6 тысяч.

Няцяжка падлічыць, колькі будзе каштаваць кіло. Прыкладна 25 тыс. рублёў. Чарніцы каштуюць значна танней. Так, 12-літровае вядро спустошыць вас усяго на 40—60 тысяч руб. Ну, а якое варэнне без цукру. Ён вам абыдзецца ў 9600 за кіло. Пакінуўшы ўсе грошы на Камароўцы і ў магазіне, можаце смела прымацца за прыгатаванне прысмакаў.

**Таццяна ЧОРНАЯ.**

# КУПІЦЬ КВАТЭРУ МОЖНА БЕЗ... ПРАПІСКІ

**27 чэрвеня 1996 года Канстытуцыйны суд сваім рашэннем адмяніў норму пастановы Савета Міністраў ад 31 жніўня 1993 года № 589 у частцы, дзе гаворыцца, што кватэры могуць быць прададзены толькі грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у гэтым населеным пункце. Пракаменціраваць гэта рашэнне карэспандэнт «Звязды» папрасіў галоўнага юрысконсульта Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Наталлю КАЧАН.**

***— Раней, каб купіць кватэру ў горадзе або пасёлку рэспублікі, трэба было спачатку там прапісацца. З-за гэтага прапіска стала прадметам куплі-продажу. Ці зменіцца сітуацыя на рынку жылля з прыняцём гэтага рашэння?***

— З моманту апублікавання ўказанага рашэння Канстытуцыйнага суда кожны грамадзянін Беларусі можа свабодна купіць кватэру ў любым рэгіёне рэспублікі. Натуральна, патрэбна неабходная сума грошай. А вось адсутнасць прапіскі (часовай ці пастаяннай) ужо не з'яўляецца перашкодай у набыцці жылля.

***— Як вядома, у Мінюсце яшчэ не распрацаваны нарматыўныя акты, якія адпавядаюць прынятаму рашэнню суда. Ці маюць права натарыусы ў сувязі з гэтым завяраць дагаворы куплі-продажу кватэр без наяўнасці прапіскі?***

— Рашэнне Канстытуцыйнага суда мае сілу закона і апратэставанню не падлягае. Значыць, здзелкі, завераныя натарыусамі, згодна з гэтым рашэннем, будуць прызнаны сапраўднымі. Акрамя таго, вы маеце права патрабаваць ад натарыяльных кантор такога завярэння дагавораў, і яны па закону не маюць права вам адмовіць.

***— Ці не прыйдзецца пасля куплі кватэры купляць у горадзе яшчэ і прапіску? Бо, напрыклад, у Мінску прапіска для арганізацый каштуе 200 мінімальных заработных плат.***

— Пасля таго, як вы купіце кватэру, вас абавязаны прапісаць у яе аўтаматычна. У гэтым выпадку, за выключэннем афармлення, прапіска вам абыдзецца бясплатна.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ЛЕКІ ПАЛЕПШАЦЦА?

**На Беларускай чыгунцы пачала дзейнічаць кантрольна-аналітычная лабараторыя.**

Гэта адна з нямногіх у рэспубліцы медустаноў, дзе з дапамогай камп'ютэрнага спектрафатометра «Салар» правяраецца якасць лекавых прэпаратаў. Мера цалкам своечасовая, паколькі за апошні час было шмат скаргаў на непрыгоднасць лекавых сродкаў, асабліва тых, што паступаюць па лініі гуманітарнай дапамогі. Лабараторыя ўкамплектавана сучасным абсталяваннем, якое можа даследаваць дабраякаснасць медыкаментаў.

На чарзе — метад аўтаматычнага пантэнцыяметрычнага ціравання, дзякуючы якому аб выніках агляду можна будзе даведацца з большай дакладнасцю і ў кароткія тэрміны.

Лабараторыяй зацікавіліся і ў рэспубліканскім Міністэрстве аховы здароўя. Ёсць надзея, што пасля расшырэння магутнасцей тут можна будзе рабіць аналізы ўсёй медыцынскай прадукцыі, якая паступае ў аптэкі Беларусі.

**Уладзімір ЦАСЮК.**

*СІТУАЦЫЯ*

# ЯК З 15 ТЫСЯЧ ПЛЯШАК ЧЫРВОНАГА ВІНА ЗАСТАЛОСЯ 7 ТОН БІТАГА ШКЛА

**Ці бачылі вы чалавека, у якога ўсё баліць пасля ўчарашняга і які страціў толькі што купленую за апошнія грошы пляшку віна? Нядаўна я быў відавочцам такога няшчасця. мужчына выйшаў з крамы, каб, напэўна, за бліжэйшым вуглом «перакуліць» у сябе гэтую выратавальную «Раніцу» і тут... Пляшка выслізвае з рук і адбываецца непапраўнае. Небарака ледзь не плача.**

**Прыгадаўшы такі эпізод, я цяпер думаю: ці змог бы гэты чалавек спакойна ўзірацца на тое, што адбывалася нядаўна на гродзенскай звалцы?**

**Ці вытрымала б яго нервовая сістэма не «аварыйную», а спецыяльна запланаваную «пагібель» не адной, і нават не сотні, а 15 тысяч(!) пляшак спіртнога? Прычым не «Раніцы» ці «Адпачынку», а пітва значна больш «казырнага», замежнага.**

А ПАЧАЛАСЯ гэтая гісторыя з кантракта, заключанага паміж прыватным прадпрыемствам «Антракс» (Казахстан) і фірмай «Дзяніс» (Польшча) на пастаўку з Варшавы 15 тысяч пляшак чырвонага віна «Корд» і «Слівен». Перавозчыкам грузу выступіла, прадаставіўшы свой «МАЗ» з паўпрычэпам, мінскае МП «Амега». Да польска-беларускай мяжы машына даехала без праблем. Аднак на тэрыторыі нашай краіны яе ў Брузгах не прапусцілі. Як патлумачылі ў Гродзенскай міжрэгіянальнай мытні, па прычынах адсутнасці фінансавых гарантый дастаўкі грузу па прызначэнню. Сутнасць вось у чым. Мытня дае «зялёную вуліцу» грузу тады, калі выкананы пэўныя ўмовы. У дадзеным выпадку, паколькі прадугледжваўся транзіт праз Расію, казахстанская фірма павінна была загадзя звярнуцца ў расійскія мытныя органы за часовай дэкларацыяй і ўнесці адпаведныя плацяжы. Гэтыя грошы — накшталт залогу, каб машына з таварам і неабходнымі падаткамі раптам не знікла на неабсяжнай прасторы СНД. І калі ўсё адбываецца па закону, фірма, як трэба разлічваецца з дзяржавай, гэты заклад вяртаецца.

Аднак фірма «Антракс» вышэйпамянёную дэкларацыю не афарміла, плацяжы расійскай мытні (а яны вельмі сур'ёзныя, прыкладна роўныя кошту тавару) не ўнесла. Па якой прычыне — сказаць цяжка. Не выключана, што ў фірмы не было грошай на гэты заклад, магчыма, дрэнна ведалі мытныя правілы. А можа, вырашылі схітрыць. Вынік жа для камерсантаў атрымаўся, мякка кажучы, незайздросны: беларускія мытнікі не дазволілі правоз грузу па тэрыторыі мытнага саюза. Гэта здарылася 24 лістапада мінулага года.

Якія ж грошы «завіслі» на мяжы? Паводле дакументацыі на гэтую здзелку, пляшка віна каштавала 20 цэнтаў, а ўвесь тавар (1250 папяровых скрыняў) — 3 тысячы амерыканскіх долараў. Аднак, сцвярджаюць у Гродзенскай міжрэгіянальнай мытні, такая сума яўна заніжаная, смеху вартая і яе ўсё роўна не прызналі б, паколькі прыкладна такое ж віно ад іншай фірмы нядаўна ішло па 45 цэнтаў за пляшку. У гэтым выпадку плацяжы, якія дазволілі б «Антраксу» атрымаць свой тавар, вельмі-вельмі значна пераўзыходзяць суму, зафіксаваную ў кантракце. Такі варыянт, напэўна, ніяк не адпавядаў планавым ці фінансавым магчымасцям казахстанскай фірмы. Вяртанне грузу ў Варшаву было, відаць, таксама непрымальна, бо давялося б заплаціць буйныя грошы польскай мытні.

У выніку аўтамабіль з віном надоўга, амаль на 7(?) месяцаў «прытармазіў» на граніцы. Кажуць, што ў асабліва незайздроснае становішча трапіў вадзіцель «МАЗа». Паводле некаторых звестак, ён выязджаў у Мінск і вяртаўся назад, каб наглядаць за машынай з грузам, а гродзенскія вадзіцелі, едучы ў Польшчу і ведаючы пра мытарствы свайго калегі, падтрымлівалі яго салам. Кажуць таксама, што тое-сёе давала для падтрымкі свайго работніка, які за гэты час адпусціў вялікую бараду, і мінская фірма «Амега».

Скончылася гэта «эпапея» тым, што казахстанская фірма палічыла за лепшае наогул адмовіцца ад свайго грузу і перадала ўсе правы на яго перавозчыку. А МП «Амега», у сваю чаргу, звярнулася ў Гродзенскую міжрэгіянальную мытню з заявай на знішчэнне віна (час, у прыватнасці, зімнія маразы не пашкадавалі яго), каб нарэшце вызваліць з «палону» машыну. Затым тавар даставілі на гродзенскую звалку і ўтылізавалі, прасцей кажучы, вылілі на зямлю пад наглядам спецыяльнай камісіі з ліку работнікаў мытні, прыродаахоўнай службы і спецаўтагаспадаркі, у чым веданні звалка.

Кажуць, што гэты працэс заняў амаль 10 гадзін. Папяровыя скрыні, у якіх змяшчалася віно, «пацягнулі» на 500 кілаграмаў, а бітае шкло прыкладна на 7 тон. Апошняе транспартавалі на Гродзенскі шклозавод і ў выніку фірма «Амега» пасля выплаты падатку «разбагацела», здаецца, мільёны на паўтара. Што і казаць, «сур'ёзная» кампенсацыя за больш чым паўгадавы прастой аўтамабіля.

Паводле слоў аднаго з членаў вышэйпамянёнай камісіі, падчас аперацыі па знішчэнню віна падышоў нейкі дзед, падобны на бамжа. «Дайце выпіць, — кажа, — бо трубы гараць». «А не атруцішся?» — спыталі ў яго. «Не», — адказаў. Аднак віна старому не далі...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## СТРАШНАЯ ЗНАХОДКА

**За восем хвілін Таццяна адрэзала ад трупа пенсіянера ногі і рукі і за тры — з дапамогай Віктара адкруціла галаву...**

Удовы-пенсіянеркі Лідзія Пятроўна Калацэй і Ганна Іванаўна Лёгенькая ў 1993 годзе распрацавалі ўчастак зямлі ў тры соткі ў раёне піўзавода, побач з чыгункай. Хай, думаюць сабе, будзе хоць нейкая падмога да той пенсіі, якую выплачваюць з вялікім спазненнем. Глядзіш, бульба на зямельцы вырасце, бурачок, морквіна якая. Хоць і папацееш над участкам, але ўсё ж трохі сытнейшай зіма будзе. Восенню жанчыны, апярэдзіўшы бамжоў, ласых пажывіцца гароднінай чужых участкаў, сабралі ўраджай, які не надта парадаваў іх, і ўжо абмяркоўвалі планы пасадак на будучы год, як здарылася неверагоднае: на іхнім добра дагледжаным участку «вырас»... труп мужчыны. А было гэта так.

Руплівыя гаспадыні і зімой наведваліся на сваю зямельку адзін раз у тыдзень. Прыйдуць, паглядзяць, ці не пашкодзілі падлеткі-падшыванцы, што коўзаюцца тут на лыжах, пляцень, падправяць што ў ім і вяртаюцца дадому. Апошні раз, праўда, Лідзія Пятроўна накіравалася на агародчык адна, бо Ганна Іванаўна як інвалід асцерагалася слізготы. І адразу ўбачыла: нехта пабываў тут, нехта пагайсаў. Бо з боку чыгункі, каля саменькага плятня, злёгку прыцярушаны дробным сняжком, ляжаў мяшок. Жанчына ціхенька абышла яго, спынілася ў роздуме — адкуль ён узяўся і што можа быць у ім. Пакратала яго наском валёнка — цяжкі, не зварушыць з месца — і нахілілася да дзіркі ў ім. Божухна, нейкае неабсмаленае мяса ў ім з плямамі крыві. Устрывожаная жанчына пакрочыла дадому куды больш бордка, чым ішла да агародчыка і адразу ж — да Ганны Іванаўны: што за падарунак нам падкінулі? Мо нехта стырыў у кагосьці парсюка, закуёшыў яго і зараз хавае сляды?

— Заўтра сходзім разам, калі слізготы не будзе, — адказала сяброўка. — Заўтра разбярэмся.

Наступны дзень рашэння жанчынам не прынёс. Мяшок на тым жа самым месцы, і староннiх слядоў каля яго не было відаць. Усё тая ж дзірка ў ім, і ўсё тое ж замёрзлае мяса — неабсмаленае, з плямамі крыві. Абдумаўшы дома, што да чаго, і баючыся, як бы той «падарунак» нейкім чынам не вылез ім бокам, бо вакол столькі розных прайдзісветаў развялося, пенсіянеркі праз тры дні аб незвычайнай знаходцы заявілі ў міліцыю. І ледзь не страцілі прытомнасць, калі даведаліся, што ў мяшку знаходзіўся труп мужчыны без галавы, ног і рук. Міліцыя пачала вышук злачынцаў, які праходзіў напружана, са складанасцямі беспаспяхова. Закончыўся ён роўна праз год, калі забойцаў узялі на чыгуначным вакзале горада Рэчыцы і на іх руках шчоўкнулі сталёвыя «бранзалёты».

## ВАСІЛЬ ІВАНАВІЧ РАМАШКЕВІЧ

быў чалавекам ціхім, рахманым. У маладосці ён служыў у ваенна-марскім флоце, меў шмат падзяк ад камандзіраў. Калі звальняўся ў запас, папрасіў сваіх сяброў зрабіць татуіроўку на руцэ: ваенны карабель разразае марскія хвалі. Прыгожая, на яго погляд, татуіроўка, унушальная. Павінна выклікаць павагу ў людзей.

І гэта павага, трэба сказаць, да Васіля Іванавіча шмат у каго была. Праўда, не за татуіроўку, а за тое стараннe, з якім ён выконваў сваю работу, за гатоўнасць прыйсці чалавеку на дапамогу. Але праўду кажуць у народзе: жыццё пражыць — не поле перайсці. Так здарылася, што Рамашкевіч паступова ўцягнуўся ў выпіўкі і асабліва пасля таго, як памерла яго жонка, а сын Анатоль, ажаніўшыся, праз два гады скасаваў шлюб, а праз пяць — трапіў за краты, учыніўшы злачынства.

Выйшаўшы з калоніі, ён пасяліўся ў двухпакаёвай кватэры бацькі, якая фактычна ператварылася ў зборышча п'яніц. Суседзі неаднаразова спрабавалі спыніць тыя шуміхі і скандалы, якія часта ўзнікалі там, ды толькі гэта не ўдавалася. П'яныя оргіі працягваліся і набылі «сакавіты» каларыт, калі ў кампаніі з'явілася Таццяна Швайкова, якая стала сужыцелькай Анатоля і засталася тут жыць. Неўзабаве Рамашкевіча-малодшага зноў адправілі за краты. На гэты раз за тое, што ён злосна ўхіляўся ад выплаты аліментаў.

Гадоў шэсць назад Васіль Іванавіч трапіў у бальніцу з пераломам рэбраў і шчыкалаткі на назе, у выніку чаго пачаў кульгаць. Піць ён так і не кінуў, але нікога ніколі і пальцам не крануў, нікога не абразіў. Ціхі п'яніца, адным словам.

## ТАЦЦЯНА

Яе дзявочае прозвішча — Радзьковіч. Бацькі: маці — даярка, бацька — трактарыст. Працавалі ў калгасе некалькі гадоў і не адмаўлялі сабе ў выпіўцы. Неўзабаве бацька (па якой прычыне — устанавіць не ўдалося) палез у пятлю, павесіўся, а маці ўжо ў Рэчыцы, куды сям'я пераехала на пастаяннае месца жыхарства, выйшла замуж за другога мужчыну.

З-за п'янак бацькам было не да яе, як адзначалася ў школьнай характарыстыцы дзяўчыны.

Прыгажосць Таццяны, яе «незакамплексаванасць» прыцягвалі да дзяўчыны многіх прадстаўнікоў процілеглага полу, і адмаўляць ім яна лічыла проста неразумным. Менавіта з-за гэтага Таццяна, кінуўшы вучобу ў адным з гомельскіх прафтэхвучылішчаў і ўладкаваўшыся кухоннай рабочай у адной сталоўцы абласнога цэнтра, як расказвае яе маці, у дзевятнаццаць гадоў нарадзіла дачку ад жанатага мужчыны. Даглядала яе ўсяго адзін месяц, перадаўшы немаўля на выхаванне Ніне Рыгораўне, якая і зараз выхоўвае сваю дванаццацігадовую ўнучку.

А Таццяна зноў кінулася ў вір гуляў з вялікімі і малымі выпівонамі, нікалечкі не задумваючыся, чым усё гэта скончыцца. Як заканамерны фінал, на свет Божы з'явіўся сынок. Ад чарговага паклонніка, якога Радзьковіч ненавідзела, але якому на нейкі час аддала па п'янцы сваё сэрца. А таму і сынок стаў для яе нейкім непатрэбным прадметам. Яго Таццяна адразу ж адтарабаніла ў дзіцячы дом. Хай дзяржава гадуе. Калі Радзьковіч ездзіла на работу з Рэчыцы ў абласны цэнтр і назад, на яе «паклаў вока» рабочы завода «Цэнтраліт» Аляксандр Швайкоў, які жыў у вёсцы Якімаўка Рэчыцкага раёна і таксама ездзіў на работу ў Гомель тым жа дызелем. Пазнаёміліся, слова за слова, і Аляксандр прапанаваў Таццяне выйсці за яго замуж. Яна дала згоду, змяніўшы сваё прозвішча на Швайкову. Жылі ў Якімаўцы, і тыя дзесяць гадоў былі нейкім кашмарам для абоіх. Пілі, біліся, лаяліся на ўсю вёску. Іншы раз, калі хто-ніхто асмельваўся ўслых паўшчуваць Таццяну за яе паводзіны, яна пускала супраць «крыўдзіцеля» рукі, за што пасля вымушана была трымаць адказ у міліцыі.

Яе сумеснае жыццё са Швайковым скончылася тым, што ў адну «кучаравую» ноч, калі на стале было многа спіртнога і ні грама закусі, яны пайшлі здабываць яе ў куратнікі аднавяскоўцаў. Паляванне на чубатак закончылася лавай падсудных — кожны з аматараў дыетычнага мяса і булёну атрымаў па два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавору на два гады.

Але гэта не стала ўрокам для Швайковых. Яны па-ранейшаму налягалі на спіртное, учынялі бойкі паміж сабой. Аднойчы пасля гарачай сваркі Таццяна сабрала свае манаткі і рушыла жыць у Рэчыцу, з маці. І ўжо праз некалькі дзён апынулася ў абдымках Анатоля Рамашкевіча. Зноў п'янкі і дэбошы ў новай кампаніі. Былі выпадкі, калі ў запоі Таццяна знаходзілася цэлы тыдзень. Ні аб якой працы тут ужо размовы быць і не магло, проста перабіваліся выпадковымі заробкамі ды пенсіяй Васіля Іванавіча. Калі ж Анатоля асудзілі за злоснае ўхіленне ад уплаты аліментаў і адправілі ў калонію, Таццяна засталася жыць у Рамашкевіча-старэйшага. Прапанаваўшы сабраць грошы і выручыць Анатоля з турмы, Таццяна падгаварыла яго прадаць тэлевізар і халадзільнік. Стары паддаўся на гэты зман: грошыкі Швайкова пусціла на выпіўкі.

Праз некалькі дзён пасля адпраўкі ў калонію Анатоля Рамашкевіча ў Таццяны з'явіўся новы каханак — Віктар Сапончык. Швайкова пазнаёмілася з ім у сяброўкі і без усякіх праблем у той жа вечар прывяла яго на начлег у кватэру Васіля Іванавіча. Стары ў дадзеным выпадку разважаў так: Анатоля ўжо не вернем цэлы год з турмы, а ў маладых — што ж? Вядома, маладыя справы, маладыя забаўкі. Яму б толькі кілішак ці слоік гарэлкі прыпаднесці не забылі. А астатняе? Ды няхай усё гарыць гарам...

## ВІКТАР

Сапончык быў родам з вёскі Капараўка, што недалёка ад Рэчыцы. У іхняй шматдзетнай сям'і (сямёра хлопцаў і дзяўчат) ён быў трэцім. Усе дзеці як дзеці, а ён — нібы выключэнне нейкае. У школе вучыцца не хацеў, ленаваўся, займаўся мардабоем меншых па ўзросту вучняў, быў на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх. Васьмігодку ён усё ж неяк агораў, прафтэхвучылішча — таксама, атрымаўшы права працаваць вадзіцелем і трактарыстам.

У гарэлку ўлёгся даволі рана, з гадамі павялічваючы дозы выпітага, з-за чаго трапляў у выцвярэзнік і, як адзначана ў заключэнні судова-псіхіятрычнай экспертызы, стаў «псіхапатычнай асобай з кола ўзбудлівых псіхапатаў». Стаўшы па сутнасці хранічным алкаголікам, ён не мог кантраляваць сябе, і ў дваццацігадовым узросце загрымеў за хуліганства на чатыры гады ў калонію строгага рэжыму з прымусовым лячэннем ад алкагалізму. Выйшаў адтуль і праз каторы час зноў сеў туды. На гэты раз за тое, што, напалохаўшы непаўналетнюю лісталетам (праўда, цацачным) і збіўшы яе на горкі яблык, спрабаваў згвалтаваць. Быў жанаты, аднак жонка не змагла выцерпець яго агіднага характару і дала цягу.

Вярнуўшыся з турмы, ён пачаў працаваць у мясцовым калгасе. Ды з такім разлікам, каб мець «левы» заробак. З гэтай мэтай краў у гаспадарцы бульбу, за што прыцягваўся да адказнасці, а за два тыдні да сужыцельства з Таццянай разам са сваім сябруком ноччу звалок з калгаснага склада 320 кілаграмаў фуражнага зерня, забыўшыся на месцы злачынства сваю куртку (міліцыя на той час яшчэ не выявіла злачынцаў).

Вядома, аб усіх гэтых «букетах» жыцця Сапончыка Таццяна не ведала, ды, мяркуючы па яе паводзінах, і ведаць не хацела. Бо да новаспечанага жаніха, а потым і сужыцеля, яе, нібы магнітам, цягнула адно: у яго ёсць грошы. А, значыць, будзе і выпіўка, і ўсё астатняе пасля яе. Вунь Віктар пахваліўся, што ў Рэчыцы трэба атрымаць мільёны «зайцаў» за здадзеную карову. Сходзім разам за грашыма. І — гуляйма, Віця і Таня!

## ЗАБОЙСТВА

З гэтага часу Швайкову і Сапончыка, хоць бы хто і хацеў, нельга было разлучыць. Семнаццатага студзеня мінулага года гэтая «салодкая парачка» зноў, чарговы раз, наведалася ў Рэчыцу. Начаваць, вядома ж, вырашылі не ў роднай маці Таццяны, а ў Васіля Іванавіча, бо і Швайкова, і Сапончык ужо не ўяўлялі без гарэлкі сэнсу свайго жыцця. Ды і Васіль Іванавіч, калі быць шчырым, таксама.

Рамашкевіч ужо прыехаў са звалкі і быў дома. Для пачатку Сапончык купіў дзве паўлітэркі гарэлкі і пельменяў для закускі. Выпілі. Добра, але ні ў адным воку, цвярозасць нейкая брыдкая. Таццяна пабегла ў магазін, дзве паўлітэркі «Зуброўкі» прынесла. Шандарахнулі адну з іх. Стары і Сапончык вялі нейкія размовы між сабой, і Віктар, ап'янеўшы, чамусьці расспсіхаваўся і, сарваўшы са сцяны люстра, гахнуў ім аб падлогу. Васіль Іванавіч перасмыкнуў плячыма: навошта, не трэба так. Бо міліцыя недалёка.

Таццяна сядзела на кухні з адкаркаванай чацвёртай бутэлькай і з заплюшчанымі вачыма нашпігоўвала сябе алкагольным пітвом. Прапанавала мужыкам далучыцца да яе занятку. Далучыліся, выпілі, і Швайкова накіравалася за чарговай бутэлькай зноў. Калі вярнулася, Сапончык і Рамашкевіч сядзелі на кухні, і Васіль Іванавіч нешта мармытаў пра люстра і міліцыю.

— Колькі ён будзе гаўкаць? — нечакана ўзарвалася Таццяна. — Забі яго, Віктар.

Сапончык, пагойдваючыся, як пустая бочка на хвалях, узяў старога за каўнер, вывеў у залу. Напоўніў ванну халоднай вадой і ўкінуў туды Рамашкевіча, прымусіўшы яго прысядаць. Супраціўляцца той не мог: п'яны, ды і сілы няма.

— Я сказала: забі яго! — не ўтаймоўвалася Таццяна і дастала з шуфлядкі вяроўку. — Задавім і прывяжам да ложка. Падумаюць — сам павесіўся.

Але Сапончык ужо не слухаў яе. Ён ужо малаціў рукамі і нагамі старога, а потым ударыў яго нажом у грудзі.

— Прыкончы яго, — вызверыўся ён на Таццяну, калі кінуў старога на ложак. — Дадушы, каб мяне не залажыла міліцыя.

Швайкова без роздуму асядлала бацьку свайго былога сужыцеля і, нібы тыгрыца, упілася сваімі рукамі ў яго горла. І без таго пазбаўлены сіл, стары дзерганууся апошні раз і заціх. Селі, зацягнуліся папяросамі. І толькі тут зразумелі, што ўчынілі цяжкае злачынства. Што рабіць? Куды дзяваць труп? Яны абодва на кручку, бо суседзі бачылі, як яны стукаліся ў кватэру Рамашкевіча. І вось у ачмурэлых ад гарэлкі мазгах Швайковай нарадзілася страшная ідэя: асвежаваць труп, раздзяліць яго на часткі, нібы тушу кабана перад продажам на рынку. А потым недзе захаваць, каб ніхто труп не апазнаў. Бо ў Рамашкевіча — рэдкія прыкметы: татуіроўка карабля на руцэ і пераламаная шчыкалатка на назе.

— За працу, — адобрыў яе план Сапончык. — Вось нож. А я пайшоў спаць.

— Дапамажы толькі распрануць яго і зацягнуць у ванну.

Калі гэта было зроблена, Таццяна скінула з сябе ўсё адзенне, каб не трапіла кроў, выпіла цэлую шклянку гарэлкі, перахрысцілася і ўзялася за сваю чорную справу. Ногі трупа да кален і рукі да локцяў яна па суставах адрэзала за восем хвілін і пачала адразаць галаву. Ніяк не атрымліваецца: косці перашкаджаюць. Паклікала Віктара, і яны ўдваіх адкруцілі галаву. На гэту «аперацыю» пайшло тры хвіліны. Потым з большага яна абмыла часткі трупа, ногі і рукі ўклала ў сумку, а ўсё астатняе — у цэлафанавы мех, на яго ўжо ўдваіх нацягнулі два палатняныя мяшкі і ўсё гэта занеслі на балкон і хай замярзае. Сапончык параіў Таццяне напісаць запіску і апусціць у паштовую скрыню Рамашкевіча, што яна прыходзіла да яго і не застала дома. Маўляў некуды знік стары.

## УЦЁКІ

Раніцай забойцы як ні ў чым не бывала паехалі ў Капараўку, пабылі там некалькі дзён і зноў вярнуліся ў Рэчыцу. Сапончык у тры гадзіны ночы, калі ў доме ўсе спалі, вынес мяшок на двор, пагрузіў яго на саначкі і ўдваіх яны пацягнулі іх да чыгункі. Так труп Рамашкевіча апынуўся на агародчыку Калацэй і Лёгенькай. А сумку з рукамі і нагамі старога Сапончык і Швайкова адвезлі ў Капараўку і захавалі іх у смецніку ў кар'еры, кіламетры за два ад вёскі.

Магчыма, забойцаў удалося б знайсці хутчэй, калі б яны не кінуліся наўцёкі. І прычынай для гэтага паслужыла тое, што міліцыя затрымала сябрука Віктара, з якім ён украў збожжа ў калгасным складзе. Сапончык зразумеў, што запахла смажаным, і прапанаваў Швайковай ехаць да яго родзічаў на Украіну.

Колькі часу яны жылі ў яго дзядзькі, а затым — у яго таварыша. Людзі шчыра спагадвалі ім у іх горы: Швайкова і Сапончык сказалі, што яны прыехалі з Чачні, дзе забілі іхняга сына-падлетка. Таму яны там і ўдарыліся ў гарэлку, прапіваючы ўсё, што зарабляў Віктар. Прычым, калі ён ужо ішоў спаць, Таццяна яшчэ заставалася на кухні і піла. Што паробіш, гаварылі людзі, калі ў маці такое няшчасце: вып'е, дык, можа, будзе лягчэй ёй. Усё ж не мужчына, у якога характар мацнейшы.

Пасля Горлаўкі «няшчасныя бацькі» паехалі да цёткі Таццяны ў горад Зернаград Растоўскай вобласці, некаторы час пажылі там і вярнуліся ў Рэчыцу. Тут, прама на пероне вакзала ім адзелі наручнікі.

## ПАКАРАННЕ

Судовы працэс па гэтай жудаснай крымінальнай справе вяла судовая калегія абласнога суда пад старшынствам Сцяпана Мысліўца, вопытнага прафесіянала. «Салодкая парачка» да гэтага часу ўжо распрацавала тактыку сваёй абароны, сутнасць якой зводзілася да наступнага.

Сапончык наогул да забойства Рамашкевіча ніякага дачынення не мае. Калі ў яго кватэры пачалася сварка, Таццяна прагнала яго за тое, што ён абазваў яе прастытуткай. А Васіля Іванавіча забіла яна адна, бо ён хацеў, каб яна ;.. стала яго сужыцелькай. Адным словам, каб ён замяніў у ложку свайго сына Анатоля.

Хітрыкі не прайшлі. Пад неабвержнымі доказамі віна забойцаў была даказана цалкам. І тады ў сваім апошнім слове Сапончык нечакана для ўсіх заявіў, што ў Таццяны будзе дзіця і што ён хацеў бы афіцыйна ўзаконіць з ёй свае адносіны. Маўляў, раней для гэтага часу не хапіла.

Калегія абласнога суда прыгаварыла: Віктара Сапончыка да пятнаццаці гадоў зняволення ў папраўча-працоўнай калоніі строгага рэжыму, а Таццяну Швайкову — да адзінаццаці ў калоніі агульнага рэжыму. Разыходзячыся з працэсу, хто-ніхто з людзей шкадаваў, што па нашых законах нельга было гэтым забойцам з воўчым характарам і акрываўленымі рукамі даць «вышку».

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

г. Рэчыца.

## АДМЕНЕНЫ ЛЬГОТЫ ПРЫ ПРОПУСКУ ЗА МЕЖЫ БЕЛАРУСІ ВАДЗІЦЕЛЯЎ МАТАЦЫКЛАЎ

Да нядаўняга часу матацыклісты, якія перасякалі дзяржаўную мяжу Беларусі ў заходнім напрамку, былі ў больш прывілеяваным становішчы ў параўнанні з вадзіцелямі іншых транспартных сродкаў: іх прапускалі па-за чаргой. Гэта нярэдка выклікала незадаволенасць вадзіцеляў аўтамашын, стварала канфліктныя сітуацыі ў пунктах пропуску, бо некаторыя матацыклісты, у першую чаргу, польскія, па некалькі разоў перасякалі яе. У сувязі з тым, што такое становішча з'яўляецца адступленнем ад патрабаванняў Пастановы Савета Міністраў ад мая 1993 года «Аб рэжымных пунктах пропуску праз дзяржаўную мяжу РБ», спецыялістамі прынята рашэнне прапускаць матацыклістаў у звычайным парадку.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

## У КЛІМАВІЧАХ З ЦЭЛЫМ АРСЕНАЛАМ ЗБРОІ ЗАТРЫМАНЫ ПАДАЗРОНЫ Ў РАЗБОЙНЫМ НАПАДЗЕ

Цэлы арсенал зброі адабраны ў 30-гадовага затрыманага ў Клімавічах, які падазраецца ва ўдзеле ў разбойным нападзе, учыненым у Расіі мінулай зімой. Відаць, займацца гэтым ён збіраўся доўга і сур'ёзна, паколькі ў запасе ў яго былі нямецкі «шмайсер», айчынная двухстволка, абрэз англійскага карабіна і патроны да іх. Знайшлі і затрымалі падазронага супрацоўнікі УБАЗ Магілёўскай вобласці.

Затрыманы таксама двое кватэрных злодзеяў-магіляўчан. Днямі, абрабаваўшы ў адсутнасці гаспадыні кватэру, адзін з іх згвалтаваў васьмігадовую дзяўчынку, якая заставалася дома адна.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## «СЕКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ» Ў БАРЫСАЎСКІМ РАЁНЕ

Здаецца, сёння нас ужо нічым не здзівіш. Але выпадак, які здарыўся днямі ў Барысаўскім раёне, прымусіў схапіцца за галовы нават шмат чаго пабачыўшых у сваім жыцці медыкаў: у мясцовы скурвендыспансер трапілі аж пяць навучэнцаў Бытчанскай вясковай школы з шакіруючым дыягназам — сіфіліс.

Па справе двух жыхароў Мінска, якія, як мяркуецца, сталі крыніцамі распаўсюджвання хваробы сярод дзяцей, вядзецца следства. Узрост пацярпелых — ад 8 да 13 гадоў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## АНАНІМНЫ ЗВАНОК АБ ЗАМІНІРАВАННІ ГОМЕЛЬСКАГА ЧЫГУНАЧНАГА ВАКЗАЛА АКАЗАЎСЯ ЛЖЫВЫМ

Лжывым аказаўся начны званок аб замініраванні Гомельскага чыгуначнага вакзала. Як паведамілі БелаПАН ва Упраўленні ўнутраных спраў на транспарце, 11 ліпеня ў 0 гадзін 47 хвілін дзяжурнаму аддзела ўнутраных спраў станцыі «Гомель» пазваніў невядомы, які папярэдзіў, што гомельскі вакзал замініраваны. У 0 гадзін 53 хвіліны пасажыры і абслуговы персанал вакзала былі эвакуіраваны. Да працы тут жа прыступіла спецыяльная група размініравання. Стараннае абследаванне памяшкання вакзала аказалася безвыніковым -- выбуховае ўстройства не было знойдзена. А 5-й гадзіне раніцы праца вакзала была адноўлена ў звычайным рэжыме.

Як і ў большасці падобных выпадкаў, хто званіў -- невядома. І гэта ўжо далёка не першы званок на вакзал, прычым вінаваты не быў устаноўлены ні разу.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

# ВЫСТУПЛЕННЕ

## Старшыні Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Г. М. Селязнёва ў Вярхоўным Савеце Беларусі 11 ліпеня 1996 г.

ПАВАЖАНЫЯ калегі-парламентарыі Беларусі!
Паважаны Сямён Георгіевіч!
Дарагія сябры!

Дазвольце перш за ўсё выказаць шчырую падзяку за запрашэнне наведаць яшчэ раз, цяпер ужо з афіцыйным візітам на чале дэлегацыі Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расіі, вашу гасцінную і дарагую сэрцу кожнага расіяніна рэспубліку.

Удзячны кіраўніцтву Вярхоўнага Савета за прадастаўленую магчымасць выступіць сёння тут перад вамі. Карыстаючыся гэтым выпадкам, хацеў бы перадаць вам, дарагія сябры, сардэчныя прывітанні і самыя добрыя пажаданні ад вашых калег — дэпутатаў Дзяржаўнай Думы, ад членаў нашай групы дружбы з беларускім парламентам.

Кожны раз, прыязджаючы ў Беларусь, зведваеш асаблівыя, не пабаюся высокіх слоў, свяшчэнныя пачуцці, бо ведаеш — тут нас сустракаюць сапраўдныя сябры, нашы браты і сёстры па гістарычнай і духоўнай роднасці, па веры, па агульнаму цяжкаму лёсу. Бо, як спяваецца ў Дзяржаўным гімне Беларусі «...беларусы з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог».

Аддаючы даніну павагі гістарычным традыцыям, развіваючы самасвядомасць народа, самабытную нацыянальную культуру, вы захоўваеце і ўдасканальваеце лепшыя якасці і рысы беларускага народа. Для расіян вы заўсёды былі і застаяцеся сёння ўвасабленнем працавітасці, дабрыні, надзейнасці, вернасці слову і справе. І глыбока заканамерна, што ніколі, нават у самыя смутныя часы сварак і перадзелаў, рускі чалавек не адчуваў сябе чужаком на беларускай зямлі, а беларус — на расійскай.

Мы ўпэўнены, дарагія сябры, так будзе і надалей.

Выверяючы і абдумваючы логіку кожнага рашэння, Расія і Беларусь крок за крокам, усё больш упэўнена рухаюцца да новага яднання на прынцыпах суверэнітэту, добраахвотнасці і ўзаемнай выгады. Падпісаны 2 красавіка гэтага года Дагавор аб утварэнні Супольніцтва нашых дзяржаў — сапраўды гістарычная вяха на нашым шляху.

Ідэя глыбокаінтэграванага Супольніцтва, зліцця эканамічнага і духоўнага патэнцыялаў, якая адпавядае карэнным інтарэсам і спадзяванням двух брацкіх славянскіх народаў, стварае неабходныя прадпасылкі для ўздыму гаспадаркі і жыццёвага ўзроўню, пераадолення многіх цяперашніх цяжкасцей, з якімі сутыкаюцца Расія і Беларусь пасля распаду Савецкага Саюза. І вельмі важна, каб грамадзяне нашых краін не ў далёкай будучыні, а ўжо цяпер пачалі адчуваць, што мы не проста абвясцілі асноўныя прынцыпы супрацоўніцтва, але і рэалізуем канкрэтныя рашэнні, накіраваныя на задавальненне іх самых надзённых патрэб.

У святле аднаўлення разбураных гаспадарчых сувязей трэба будзе разгарнуць работу па аздараўленню і стымуляванню дзейнасці вядучых расійскіх і беларускіх прадпрыемстваў, сінхранізацыі працэсаў рыначных пераўтварэнняў, у тым ліку прыватызацыі, запуску механізма шэрага наднацыянальных органаў, ад якіх мы чакаем узаемнай выгады. Напрыклад, стварэнне Мытнага саюза Расіі і Беларусі, знясце лішніх перашкод для супрацоўніцтва суб'ектаў гаспадарання і фізічных асоб ужо прывяло да павелічэння вытворчасці больш як 100 важнейшых відаў прадукцыі. А цяпер ствараецца і аб'яднанае кіраўніцтва мытных службаў.

Многа нявыкарыстаных магчымасцей у развіцці гандлёва-эканамічных адносінаў. У 1995 годзе зноў знізіўся тавараабарот паміж нашымі краінамі. Гэта тэндэнцыя пакуль, на жаль, захоўваецца і сёлета. Пры тым, што Расія зацікаўлена ў атрыманні беларускіх трактароў, грузавых аўтамабіляў, нафтапрадуктаў, вырабаў з чорных металаў, гумавых вырабаў, мінеральных угнаенняў, хімічных валокнаў і ніцей, мяса, малака і іншай прадукцыі. У сваю чаргу ваша рэспубліка мае патрэбу ў стабільных пастаўках з Расіі нафты і прыроднага газу, чорных металаў, легкавых аўтамабіляў, сінтэтычнага каўчуку, баваўняных тканін, драўніннай цэлюлозы і многага іншага. Указаныя ўзаемныя патрэбнасці застануцца, паводле разлікаў спецыялістаў, пакуль без істотных змен у бліжэйшыя гады.

У святле праходзячай у абедзвюх краінах структурнай перабудовы эканомікі востра стаіць задача мадэрнізацыі дзеючых, стварэння новых вытворчасцей. Вырашаючы яе аб'яднанымі намаганнямі на сумесных прадпрыемствах, у фінансава-прамысловых групах, неабходна перш за ўсё забяспечыць надзейную нарматыўна-прававую базу, уніфікаваць фундаментальныя асновы заканадаўства з абодвух бакоў у галіне падаткаабкладання, інвестыцый, валютна-фінансавай і банкаўскай дзейнасці.

На працягу другога паўгоддзя трэба будзе ажыццявіць меры па развіццю агульнай транспартнай сістэмы з адзінымі груза-пасажырскімі тарыфамі, а таксама па стварэнню аб'яднанай энергасістэмы, агульнай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы.

Працэс збліжэння Расіі і Беларусі паслядоўна ажыццяўляецца намаганнямі заканадаўчых і выканаўчых органаў улады. Пасяджэнне Вышэйшага Савета ў Брэсце 22 чэрвеня, у свяшчэнны Дзень Памяці дало адказ на многія сумненні, крытычныя выказванні і папрокі. Яно паказала, што Супольніцтва — не надуманая канструкцыя. Гэта жывы арганізм, які тонка рэагуе на запатрабаванні практыкі, і пачаў ужо актыўна дзейнічаць у інтарэсах нашых народаў.

З утварэннем Супольніцтва перш за ўсё радавыя грамадзяне абедзвюх дзяржаў адчуваюць станоўчы эфект ад праводзімых мерапрыемстваў. Яны могуць цяпер беспераШкодна атрымліваць работу, адукацыю, медыцынскую дапамогу, купляць жыллё незалежна ад свайго грамадзянства. У стадыі ўрэгулявання знаходзяцца пытанні пенсіённых выплат, забеспячэнне льготамі «чарнобыльцаў» і іншыя сацыяльныя праблемы. Знясце мытні на граніцах паміж Расіяй і Беларуссю дае магчымасць грамадзянам без мытных аглядаў наведваць адзін аднаго.

Можна, думаю, з задавальненнем і гордасцю сказаць, што слова «іншаземец» зноў знікне з лексікона двух нашых народаў у прымяненні адзін да другога.

Словам, агульнымі намаганнямі мы ўсё больш упэўнена рухаемся па шляху стварэння сучаснай, аптымальнай архітэктуры інтэграцыі, якая ў найбольшай ступені адпавядае інтарэсам нашых народаў.

25 чэрвеня ў Смаленску, як вядома, прайшла першая сесія Парламенцкага Сходу Супольніцтва Расіі і Беларусі. Старшынёй Сходу выбраны Сямён Георгіевіч Шарэцкі. Дазвольце яшчэ раз сардэчна павіншаваць Сямёна Георгіевіча з гэтай нялёгкай і выключна адказнай місіяй, пажадаць яму і ўсім членам дэпутацый у Сходзе канструктыўнай плённай работы.

Галоўная задача Парламенцкага Сходу, як вобразна адзначалася ў ходзе яго пасяджэнняў, пракласці надзейны «прававы калідор» для дзеянняў выканаўчых уладаў.

Парламенцкі Сход пачаў сваю работу, маючы сур'ёзную дагаворна-прававую базу. Падпісана каля ста міждзяржаўных і міжурадавых дагавораў і пагадненняў, каля 30 праектаў знаходзяцца ў стадыі прапрацоўкі. І, вядома ж, ствараючы новыя заканадаўчыя акты, мы павінны ўважліва прааналізаваць выкананне ўжо прынятых, дабівацца іх поўнай рэалізацыі.

Работа смаленскай сесіі выявіла, чаго граху таіць, і вядомыя цяжкасці, у тым ліку псіхалагічнага парадку, некаторую ідэалагічную зашоранасць і палітычную ангажыраванасць партнёраў, пэўную падазронасць, якая накапілася за некалькі гадоў існавання з пагранічнай мяжой. Адны бачаць у праходзячых працэсах ледзь ці не пагрозу суверэнітэтам, другія — наадварот, дакараюць у марудлівасці праходжання працэсаў нашай інтэграцыі.

Жыццё ўсё расставіць на свае месцы. І народы, на шчасце, часта бываюць мудрэйшымі і больш кемлівымі, чым іхнія палітыкі. Пакуль мы з вамі шукаем і абгрунтоўваем формулы і канструкцыі супрацоўніцтва, сувязі нашых краін напаўняюцца рэальным зместам праз сотні і тысячы крыніц народнай ініцыятывы на мясцовым узроўні. У мінулым годзе, напрыклад, фізічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава заключыў дагавор з Віцебскім дзяржаўным універсітэтам аб супрацоўніцтве ў падрыхтоўцы спецыялістаў для Беларусі. Праходзячы навучанне ў Віцебску па праграмах МДУ, студэнты завяршаюць семестр на сесіі ў аўдыторыях Маскоўскага універсітэта, атрымліваюць кансультацыі, слухаюць лекцыі і здаюць экзамены. А што перашкаджае пашырыць такое супрацоўніцтва на падрыхтоўку іншых спецыялістаў? І падобных прыкладаў нямала.

Вопыт пераканаўча сведчыць аб супадзенні падыходаў расійскіх і беларускіх парламентарыяў да неабходнасці хуткай і граматнай уніфікацыі заканадаўства абедзвюх краін, стварэння агульнай сістэмы каардынат, адзінага прававога поля інтэграцыі.

Утварэнне Супольніцтва не проста дасягненне Расіі і Беларусі. Пры сваім відавочным поспеху яно можа стаць добрым прыкладам, своеасаблівай мадэллю інтэграцыі на ўсёй постсавецкай прасторы.

Паважаныя дэпутаты!

Шлях развіцця Расійскай Федэрацыі за апошнія гады аказаўся звязаным з многімі дэмакратычнымі ўзрушэннямі, а сацыяльная цана рэформаў неапраўдана высокай. Многія рэальныя беды звязаны з не да канца прадуманымі крокамі па рэфарміраванню эканомікі, з часам безразважным, без уліку гістарычных традыцый і вопыту Расіі, пакланеннем ідалам манетарызму, «фінансавай стабільнасці». Сёння нават у краіне тэарэтыкаў лібералізацыі ўсё часцей чуюцца галасы аб неабходнасці ўмацнення на сучасным этапе дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку, заканадаўчага абмежавання ўзроўню рэнтабельнасці, узмацнення фіскальнага націску на шэраг галін, правядзення іншых мер гаспадарчага дырыжыравання.

З мэтай вядомай карэкціроўкі рэформаў, забеспячэння большай сацыяльнай абароненасці насельніцтва Федэральным Сходам ужо зацверджаны шэраг прынцыповых законаў па пытаннях аплаты працы, пенсіённага забеспячэння, навукі і адукацыі, барацьбы са злачыннасцю. У гэтай рабоце расійскі парламент імкнецца арыентавацца на самыя высокія еўрапейскія стандарты, уважліва вывучае лепшыя нацыянальныя мадэлі і механізмы. Важкі ўклад у вырашэнне пастаўленых перад Дзяржаўнай Думай задач уносяць яе пастаянныя камітэты, дэпутацкія фракцыі і групы.

Мінула некалькі дзён пасля выбараў Прэзідэнта Расіі. Яшчэ не ўлегліся эмоцыі перадвыбарнай барацьбы, не суцішлі страсці. Аднак ужо цяпер можна зрабіць выснову, што наша грамадства, як ніколі, мае патрэбу ў аб'яднальнай, не абцяжаранай рознымі прадузятасцямі, агульнанацыянальнай ідэі вываду краіны з глыбокага палітычнага, эканамічнага і духоўнага крызісу. Паяўляецца шанц кансалідаваць людзей, перастаць дзяліць іх на «чыстых» і «нячыстых», «белых» і «чырвоных».

І Дзяржаўная Дума, якая дакладна адлюстроўвае сацыяльна-палітычны спектр грамадства, гатова прайсці сваю частку шляху да ўстанаўлення згоды і канструктыўнага супрацоўніцтва на ўсіх паверхах улады. У прывітальнай тэлеграме Думы Б. М. Ельцыну выказана ўпэўненасць, што адносіны паміж прэзідэнтам і парламентам будуць складвацца ў духу ўзаемнай павагі і разумення, супрацоўніцтва і канструктыўнага дыялога.

У той жа час не магу не сказаць, што па-ранейшаму знаходзяцца гарачыя галовы ў асяроддзі расійскай палітычнай эліты, якія заклікаюць «развіць поспех на выбарах», а па сутнасці — выйсці з прававога поля, раскачаць Дзяржаўную Думу, падмяніць яе неканстытуцыйнымі «прыдворнымі» структурамі. Такі ход падзей, здольны паставіць пад пагрозу слабую раўнавагу ў грамадстве, выклікаць новы віток напружанасці, асуджаны сёння, паводле нашага пераканання, на няўдачу. Мы верым, што на гэты раз сцэнарый развіцця сітуацыі ў Расіі будзе напісаны чарнілам разважнага сэнсу, а не помсты і палітычных амбіцый.

Паважаныя калегі!

Расія і Беларусь займаюць дастойнае месца ў Еўропе, у сусветным супольніцтве. Разам з тым мы лічым, што роля парламентаў нашых і іншых краін СНД у будаўніцтве сталага еўрапейскага партнёрства, распрацоўцы мадэлі шырокай структуры бяспекі на кантыненце павінна і можа быць больш важкай.

Ад рашэнняў намечанага на снежань саміта АСБЕ ў Лісабоне ў многім будзе залежаць перспектыва будаўніцтва мірнай і стабільнай Еўропы XXI стагоддзя, свабоднай ад раздзяляючых бар'ераў, якая адхіляе палітыку двайных стандартаў у галіне правоў чалавека, стварае сапраўдную бяспеку на кантыненце без якіх-небудзь спроб штучна ствараемага адчужэння Расіі ад яе карэнных асноў.

Хацеў бы асобна падкрэсліць, што Расія не прэтэндуе на права «вета» ў адносінах да палітыкі іншых краін. І калі ў дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ёсць заклапочанасці, то мы гатовы ўдзельнічаць у пошуку адэкватных адказаў. Аднак мы перакананы, што спробы расшырэння НАТО на Усход, набліжэння яе інфраструктуры да межаў нашай краіны непазбежна выклічуць эскалацыю напружанасці на кантыненце ды і ў свеце ў цэлым. Стратэгічнае ж партнёрства Расіі і Беларусі ў стрымліванні планаў НАТО па размяшчэнню ядзерных ракет паблізу нашых граніц можа прадухіліць новы віток небяспечнага процістаяння.

Дзейнічаючы ў рамках Дагавора аб супольніцтве, мы маем намер таксама з улікам новых магчымасцей у Савеце Еўропы, садзейнічаць больш хуткаму прыняццю ў гэтую аўтарытэтную арганізацыю Беларусі. Гатовы, зразумела, падзяліцца і практычным вопытам нашай работы па праходжанню няпростых працэдур уступлення ў гэтую арганізацыю.

Словам, еўрапейскія справы, міжнародныя адносіны ў цэлым — гэта тая ж сфера, у якой нам трэба будзе нарошчваць і ўдасканальваць наша ўзаемадзеянне.

Дарагія беларускія сябры!

Кароткі, але выключна насычаны афіцыйны візіт дэлегацыі Дзярждумы ў вашу краіну дае выдатную магчымасць непасрэдна азнаёміцца са станам двухбаковых адносінаў, намеціць шляхі вырашэння накопленых праблем, дамовіцца аб бліжэйшых планах у сферы міжпарламенцкага супрацоўніцтва.

Мы ў поўнай меры задаволены вынікамі сустрэч з Прэзідэнтам Беларусі А. Р. Лукашэнкам, іншымі кіраўнікамі, грунтоўнымі перагаворамі ў Вярхоўным Савеце Беларусі. Сёння ў нас адбудзецца сустрэча з вашым прэм'ерам. Думаю, што мы зможам аднадушна канстатаваць, што абодва бакі накіраваны на актыўнае ўзаемадзеянне, цесную каардынацыю па самаму шырокаму колу праблем. Іх канчатковая мэта — дасягненне канкрэтных вынікаў, якія забяспечаць найлепшыя ўмовы і эканамічнага развіцця нашых краін, і больш трывалую і надзейную бяспеку, і паслядоўны рост дабрабыту насельніцтва.

Дазвольце, дарагія сябры, пажадаць вам, а ў вашай асобе — усяму брацкаму беларускаму народу вялікіх поспехаў у вырашэнні пастаўленых перад краінай задач.

Дзякуй за ўвагу.

Іменем Рэспублікі Беларусь

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі артыкула 70 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка Старшыні Суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прыняў закон:

Хрола В. П. — сакратара Камісіі Вярхоўнага Савета па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы;

Свіціна В. В. — галоўнага спецыяліста Экспертна-прававога кіраўніцтва сакратарыята Вярхоўнага Савета;

эксперта Чыгіра В. Ф. — прафесара кафедры грамадзянскага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктара юрыдычных навук;

спецыяліста Дабравольскага Г. Г. — намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь;

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі артыкула 70 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Камянкоў В. С. — намеснік Старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь;

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь;

Бачкова Г. В. — намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Справа ўзбуджана Канстытуцыйным судом па свайму гледжанню на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі і часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Артыкулам 70 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжана, што пры часовай адсутнасці наймальніка або членаў яго сям'і за імі захоўваецца жылое памяшканне на працягу шасці месяцаў.

Калі наймальнік або члены яго сям'і адсутнічалі па ўважлівых прычынах звыш шасці месяцаў, гэты тэрмін па заяве адсутнага можа быць падоўжаны наймальнікам, а ў выпадку спрэчак — судом.

Жылое памяшканне захоўваецца за часова адсутным наймальнікам або членамі яго сям'і на больш працяглы тэрмін у выпадках:

1) прызыву на абавязковую тэрміновую ваенную службу, а таксама прызыву афіцэраў з запасу на абавязковую ваенную службу на тэрмін да трох гадоў — на працягу ўсяго часу праходжання ўказанай ваеннай службы; знаходжання на абавязковай ваеннай службе ў якасці прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых звыштэрміновай службы — на працягу першых пяці гадоў знаходжання на абавязковай ваеннай службе;

2) часовага выезду з пастаяннага месца жыхарства па дагаворах і характару работы (экіпажы суднаў, работнікі геалагічных, пошукавых партый, экспедыцый і да т. п.) або ў сувязі з вучобай (студэнты, аспіранты і да т. п.) — на працягу ўсяго часу выканання дадзенай работы або вучобы;

3) змяшчэння дзяцей на выхаванне ў дзіцячыя ўстановы, да сваякоў, апекуну або папячыцелю — на працягу ўсяго часу знаходжання іх у гэтай установе, у сваякоў, апекуна або папячыцеля, калі ў жылым памяшканні, з якога выбылі дзеці, засталіся жыць іншыя члены сям'і;

4) выезду ў сувязі з выкананнем абавязкаў апекуна або папячыцеля — на працягу ўсяго часу выканання гэтых абавязкаў;

5) выезду для лячэння ў лячэбна-прафілактычнай установе — на працягу ўсяго часу знаходжання ў ёй;

6) змяшчэння ў лячэбна-працоўным прафілакторыі — на працягу ўсяго часу знаходжання ў ім;

7) зняволення пад варту — на працягу ўсяго часу знаходжання пад следствам або судом.

У выпадках, прадугледжаных пунктамі 1—7 гэтага артыкула, жылое памяшканне захоўваецца за адсутным на працягу шасці месяцаў з дня заканчэння тэрміну, указанага ў адпаведным пункце.

Заканадаўствам могуць быць устаноўлены і іншыя ўмовы і выпадкі захавання жылога памяшкання за часова адсутнымі грамадзянамі на больш працяглы тэрмін.

Заслухаўшы тлумачэнні прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, заключэнне эксперта, меркаванне спецыяліста, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных вывадаў.

Артыкулам 22 Канстытуцыі абвешчана роўнасць усіх перад законам і права на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў без усякай дыскрымінацыі.

Згодна з артыкулам 23 Канстытуцыі абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

У адпаведнасці з артыкулам 30 Канстытуцыі грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна ездзіць і выбіраць месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь, пакідаць яе і беспераШкодна вяртацца назад.

Артыкул 48 Канстытуцыі замацоўвае права грамадзян Рэспублікі Беларусь на жыллё.

Палажэнні артыкула 70 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якія ўстанаўліваюць магчымасць захавання жылога памяшкання за часова адсутнымі грамадзянамі на працягу пэўных тэрмінаў, не адпавядаюць гэтым нормам Канстытуцыі.

Суд лічыць, што заканадаўца можа прадугледзець абмежаванні права карыстання жылым памяшканнем, аднак гэтыя абмежаванні павінны быць звязаны з невыкананнем умоў дагавора найму жылога памяшкання. Часовая адсутнасць наймальніка або членаў яго сям'і ў жылым памяшканні само па сабе не можа сведчыць аб неналежным ажыццяўленні гэтымі асобамі сваіх жыллёвых правоў і абавязкаў па дагавору найму і служыць самастойнай падставай для пазбаўлення права карыстання жылым памяшканнем. Жыллёвым заканадаўствам дапускаецца магчымасць засялення ў гэта жылое памяшканне часовых жыльцоў, паднаймальнікаў на ўмовах і ў парадку, прадугледжаным законам. Наймальнік можа таксама даручыць ажыццяўленне сваіх правоў і выкананне абавязкаў па дагавору найма жылога памяшкання іншай асобе на падставе даверанасці.

На думку суда, часовая адсутнасць наймальніка або членаў яго сям'і не змяняе прызначэнне жылога памяшкання і не парушае правы і законныя інтарэсы іншых асоб, калі пры гэтым выконваюцца ўмовы дагавора найму жылога памяшкання.

Суд не можа пагадзіцца з довадамі прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета аб тым, што нормы артыкула 70 Жыллёвага кодэкса накіраваны на абарону правоў грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Падставы, па якіх грамадзянін можа быць прызнаны страціўшым права на жылое памяшканне, павінны вынікаць з умоў дагавора найму жылога памяшкання. Недапушчальным з'яўляецца паляпшэнне жыллёвых умоў грамадзян, якія маюць патрэбу ў жыллі, за кошт пазбаўлення права на жыллё іншых грамадзян.

У сувязі з гэтым суд лічыць, што нормы Жыллёвага кодэкса, якія прадугледжваюць захаванне жылога памяшкання за часова адсутнымі грамадзянамі на працягу пэўных тэрмінаў, парушаюць канстытуцыйнае права грамадзян на жыллё.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

**ВЫРАШЫЎ:**

1. Прызнаць неадпаведным Канстытуцыі артыкул 70 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь і лічыць яго страціўшым сілу з моманту прыняцця гэтага Заключэння.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету, Кабінету Міністраў прывесці Жыллёвы кодэкс і іншыя нарматыўныя акты ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і ў тых выданнях, дзе быў апублікаваны Жыллёвы кодэкс Рэспублікі Беларусь.

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь** **В. Г. ЦІХІНЯ**

25 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 3-38/96.

*ПОГЛЯД*

# РАСІЯ ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ: «КАМО ГРЯДЕШИ?»

Толькі што абвешчаны афіцыйныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Выбараў, якія несумненна можна назваць гістарычнымі, бо яны — знакавыя па сваёй палітычнай сутнасці, бо яны праходзілі ў новай, дэмакратычнай, суверэннай Расіі і адбываліся ў адпаведнасці з яе новым заканадаўствам, яе новым Асноўным законам. Нельга не пагадзіцца са сцвярджэннем, што адным з асноўных вынікаў выбараў з'яўляюцца самі выбары — свабоднае, сумленнае, дэмакратычнае волевыяўленне расіян.

Свае нататкі, што былі надрукаваны ў «Звяздзе» напярэдадні першага тура выбараў, я заканчваў словамі пра тое, што ў суседняй краіне чакаюцца «цяжкія выбары, выбары-супрацьстаянне, выбары-выпрабаванне, выбары-экзамен». Так яно і было ў сапраўднасці. І зноў выбраны (перавыбраны на другі тэрмін) прэзідэнт меў рацыю, калі ў сваім звароце да грамадзян зазначыў: «Я ганаруся тым, што вы вытрымалі гэтае выпрабаванне!»

Так, дзень 3 ліпеня стане надоўга памятнай датай для расіян, ён варты таго, каб, як пісаў антычны паэт, «быць адзначаным белым каменем». Але ж выбары — не самамэта, і, тым больш, не панацэя. Пры ўсім тым, што з'яўляюцца, безумоўна, добрай школай рэальнай дэмакратыі. Рэч яшчэ ў тым, як будуць асэнсаваны іх вынікі і рэалізаваны іх маральна-палітычны капітал. Застаюцца пытанні: што чакае Расію? Якім будзе яе заўтра? Якія, акрамя святочных, «белых», камяні і каменьчыкі сустрэнуцца на яе шляху да лепшай будучыні? І, нарэшце, як будзе далейшае развіццё Федэрацыі адбівацца на лёсе яе суседзяў і, у прыватнасці, нашай Беларусі?

Задумацца яшчэ раз над гэтымі пытаннямі мяне падштурхнулі расійскія ж аўтары і расійскія СМІ. У дзень выбараў, недзе каля адзінаццаці гадзін дня, я пачуў па радыёстанцыі «Маяк» экспрэс-інтэрв'ю з гісторыкам, прафесарам Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Ламаносава, які напісаў працу на тэму «Ад Івана Грознага да Аляксандра Лебедзя». У нас, рускіх, гаварыў па радыё аўтар актуальнай працы, гісторыя ішла сама па сабе, а гісторыяграфія — сама па сабе. Сапраўдная ж ісціна ў тым, што ў расійскай гісторыі змагаліся дзве ідэі — ліберальная і імперская. Апошняя пачала браць верх з часу Івана Грознага, яго захопніцкіх паходаў на тэрыторыі суседніх народаў. Да яго Расія была самай дэмакратычнай краінай у Еўропе (за літаральную дакладнасць гэтых слоў ручаюся). Калі ж яна пачала пашыраць свае «пределы», далучаць суседнія землі, праводзіць, інакш кажучы, імперскую знешнюю палітыку, пазней згуртоўваць «саюз нерушимы рэспублік свабодных» і калі мусіла адпаведна выдаткоўваць вялікія матэрыяльныя і інтэлектуальныя рэсурсы на ажыццяўленне гэтай палітыкі, на армію, на ўзбраенне, на ВПК, то тым самым падрывала асновы здаровага ўнутранага развіцця. Аўтар манаграфіі рабіў выснову, што Расія не зможа стаць свабоднай і квітнеючай, пакуль не адмовіцца ад месіянства, ад імперскай знешняй палітыкі.

Такія вось развагі гучалі па расійскаму радыё ў дзень выбараў расійскага прэзідэнта. А назаўтра, г. зн. пасля выбараў, я меў магчымасць пазнаёміцца з працягам той жа, па сутнасці, тэмы. Мне трапіўся на вочы артыкул вядомага маскоўскага пісьменніка-публіцыста Юлія Карэліна, змешчаны ў «Общей газете» за 3 ліпеня пад характэрным загалоўкам «Почему у нас вечен конфликт истории и географии?» Падчас выбараў давалі пра сябе знаць канфлікты ідэалагічны і сацыяльна-палітычны. А тут высвятляецца, што існуе яшчэ адзін — паміж гісторыяй і геаграфіяй. «Может, изначально противоречия в нашей стране, на нашей земле связаны с просторами? Как большими, так и малыми? — ставіць пытанне публіцыст. — В результате — вечный конфликт истории с географией. История наша всегда сужала возможности и просторы для личности, география создавала возможности расширения для общества, державы, государства. На этом фоне естественно рождается идея: общественное выше личного. Ширься, отечество, наше свободное...» Падзяліўшыся далей сваімі думкамі пра некаторыя спецыфічныя асаблівасці развіцця Расіі, Ю. Карэлін прыходзіць да наступнай высновы: «Может, когда Россия станет только Европой, все пойдет по-другому? Но тогда надо выбрать приоритет: личность или держава? Конечно, если людям, отдельным личностям будет славно жить, то и страна будет хорошеть. И вовсе не нужна нам тогда державная грандиозность».

Як бачым, прэзідэнцкія выбары падштурхнулі расіян, ва ўсякім выпадку іх інтэлектуальную эліту, да роздуму, да неабходнасці, кажучы славамі Радзішчава, «оглянуться окрест себя», далі дадатковы імпульс да крытычнага аналізу і рэалістычнага, цвярозага прагнозу адносна будучыні Расіі. І ў гэтым яшчэ адзін са станоўчых вынікаў нядаўняй выбарчай кампаніі.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# ЛІТВА ДАЛЁКАЯ І БЛІЗКАЯ

## Турызм — справа дзяржаўнай значнасці

**(Працяг. Пачатак у № 174.)**

І гэта сапраўды так. Нельга сказаць, што Літва багатая на карысныя выкапні, што яна мае буйную разгалінаваную прамысловасць. Найбольшая перавага яе заключаецца ў выхадзе да мора. Такім чынам, краіна пазбаўлена тых традыцыйных крыніц даходу, якія характэрныя для буйных дзяржаў. У гэтых умовах Літоўская Рэспубліка выбрала іншы шлях эканамічнага развіцця, шлях да заможнага жыцця. Турызм на гэтым шляху адыгрывае, бадай, адну з самых галоўных роляў, паколькі ён падштурхоўвае і развіццё іншых галін: у прыватнасці, харчовай прамысловасці, транспарту, абслугоўвання і гандлю. Літоўцы своечасова зразумелі перавагі свайго геаграфічнага становішча, багацце гістарычнага шляху, які пакінуў сённяшняму пакаленню безліч каштоўных помнікаў даўніны, своеасаблівую архітэктуру — якраз тое, што вабіць людзей, якія хварэюць падарожжамі і любяць прыгожае. Адным словам, яны зразумелі, што валодаюць цудоўнай глебай для развіцця ўласнага турыстычнага бізнесу, які можа стаць для краіны ў цэлым залатой жылай.

У гэтым накірунку пачала дзейнічаць і дзяржава. Самае важнае, што патрабавалася ад яе на першым этапе — тое, каб яна не перашкаджала рэалізацыі новых ідэй, не губіла ініцыятыву, а, наадварот, па магчымасці імкнулася падтрымаць ініцыятыўных людзей. А гэта ўжо, згадзіцеся, шмат. І гэтая дамамога пачала рэалізоўвацца. Як у адносінах да цэлых арганізацый, так і да асобных людзей. Мабыць, няма сэнсу казаць пра тое, што, напрыклад, гасцінічны комплекс Літвы зараз перажывае другое нараджэнне. Большасць гатэляў як малых, так і вялікіх пераходзіць у прыватныя рукі, хаця нямала існуе прыкладаў, калі яны застаюцца ў муніцыпальнай уласнасці. Тым не менш, у выніку такіх змен гатэлі набываюць зусім іншы выгляд, прываблівающь сваёй чысцінёй і ўтульнасцю. Але самае важнае — цэнамі, разлічанымі на людзей з самым розным дастаткам. Бачылі мы і апартаменты па 500 долараў за суткі і нумары па 10 долараў. Да таго ж сетка гасцінічнага абслугоўвання развіта нават у маленькіх гарадах з насельніцтвам у дзве-тры тысячы жыхароў. Гасцініцы няхай і маленькія, але своеасаблівыя, вельмі ціхія і прыемныя. Паралельна з гасцінічным комплексам развіваецца сфера гандлю і паслуг. Безліч прыватных лавачак, бараў і кафэ асабліва ў такіх цэнтрах, як Вільнюс, Каўнас, Паланга, Клайпеда, проста заваражвае. Ёсць яны і ў маленькіх гарадах і нават, я б сказаў, у вёсках.

Адсутнічае манаполія ў таксістаў, паколькі толькі ў адным Вільнюсе існуе некалькі прыватных таксакампаній. Некалькі аўтазаправак і станцый абслугоўвання на адной дарозе — таксама паўсюдная з'ява.

Сустрэліся мы і з прыкладамі даволі арыгінальнымі. Праўда, самі літоўцы гэтаму не здзіўляюцца. Напрыклад, так званы агратурызм. Заключаецца ён у тым, што прадпрымальнік адбудаваў у вёсцы пад Тракаі трохпавярховы, як у нас чамусьці з пагардай кажуць, катэдж і стварыў у ім нешта накшталт прыватнай гасцініцы. На адным паверсе жыве сам з сям'ёй, два астатнія здае шукальнікам прыгод з блізкага і далёкага замежжа. Напрыклад, англічане з задавальненнем жывуць у яго, паколькі і ўмовы, і абслугоўванне, і цана іх поўнасцю задавальняюць. Тэрыторыю ж вакол дома гаспадар засеяў травой і стварыў газон, прыдатны нават для гульні ў гольф. Але заўважце, ніякай зайздрасці тым больш воклічаў «вайна палацам» у акружаючых гэта не выклікае. Наадварот, сусед прадпрымальніка, паглядзеўшы на такія справы, пачаў будаваць нешта падобнае і ў сябе. Другі «арыгінал» разам з сям'ёй і сябрамі стварыў акцыянернае таварыства, выкупіў некалькі домікаў былога піянерскага лагера на беразе чароўнага возера і арганізаваў на аснове ўсяго гэтага свой бізнес, стварыўшы амаль што ідэальныя ўмовы для адпачынку на прыродзе. Там ёсць дзе і паплаваць, нават з аквалангам, і з лука пастраляць, і на кані паездзіць, і паесці смачна, паколькі ў сваёй хаце ён адкрыў для гасцей лагера сапраўдную старадаўнюю карчму. Асаблівай папулярнасцю яго пачынанне карыстаецца сярод моладзі, якая праводзіць тут цэлыя тыдні. Вядома, такія ініцыятывы для ператварэння іх у жыццё патрабуюць немалых грошай. Першы іх зарабляе тым, што, арандуючы некалькі грузавых аўтамабіляў, пастаўляе з Варшавы ў Вільнюс харчовыя прадукты (свой хлеў ён ператварыў у велізарны халадзільнік, закупіўшы, дарэчы, патрэбнае абсталяванне ў беларускіх вайскоўцаў), а другі гандлюе паперай. Атрыманы прыбытак абодва ўкладваюць у вось такія, на першы погляд, дзіўныя пачынанні.

Шчыра кажучы, назіраючы за такой карцінай, я спрабаваў спраектаваць яе на беларускую рэальнасць. Здаецца, падставы для развіцця турызму і адпачынку ў нашых краін амаль аднолькавыя. Беларусь таксама можа пахваліцца і рэдкай прыгажосцю помнікаў гісторыі і архітэктуры, і сваімі сінюткімі азёрамі, і мясцінамі, дзе проста можна адпачыць душой ад гарадскога



шуму і таўкатні. Але чагосьці не хапае. Не хапае, мусіць, у першую чаргу нармальнай дзяржаўнай палітыкі ў гэтым накірунку, а таму няма смеласці ў людзей у сучасных складаных умовах пачынаць сваю ўласную справу, асабліва ў такой хісткай галіне, як турызм. Але калі і ёсць такія энтузіясты, то пра іх няма інфармацыі. У Літве ж усё пастаўлена на шырокую нагу. Сфера турызму і паслуг цэнтралізаваная: нягледзячы на форму ўласнасці арганізацый, інфармацыя пра іх сцякаецца ў раённыя, павятовыя і рэгіянальныя турыстычныя бюро, якія валодаюць поўнай інфармацыяй. Менавіта туды лепш за ўсё звяртацца ў першую чаргу. Там вам параяць якраз тое, што вы шукаеце.

Дарэчы, адметная асаблівасць буйных турыстычных фірмаў Літвы заключаецца ў тым, што яны ў асноўным арыентуюцца на ўнутраны турызм, а не на знешні (хаця і гэтая сфера не ў заняпадзе). Гэта дыктуе не нейкая матэрыяльная выгада, а, мусіць, нацыянальная гордасць, імкненне ў лепшым святле паднесці сваё, літоўскае.

**НА ЗДЫМКАХ:** касцёл св. Ганны ў Вільнюсе; рэшткі Каўнаскага замка; прыватная гасцініца «Nemunas» у райцэнтры Шылутэ — тыповы варыянт для маленькіх гарадоў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ, фота аўтара.**

**(Заканчэнне будзе.)**





## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

- Па ўдакладненых даных, у выніку выбуху ў тралейбусе маршруту № 48 у раёне станцыі метро «Аляксееўская» ў Маскве 1 чалавек загінуў і 14 атрымалі раненні.
- Генерал Лебедзь заявіў, што ён гатоў праводзіць перамовы пра мір у Чачні і рабіць у гэтым накірунку канкрэтныя крокі.
- Злучаныя Штаты анулявалі ўязную візу прэзідэнту Калумбіі Сампэру з-за яго сувязей з наркамафіяй.

**УКРАІНСКІМ ШАХЦЁРАМ АБЯЦАЮЦЬ ЗАПЛАЦІЦЬ**

Урад Украіны знайшоў рашэнне праблемы выплаты зарплаты шахцёрам. Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр краіны Павел Лазарэнка ў Кіеве на сустрэчы з дэпутатамі Вярхоўнай Рады шахцёрскіх рэгіёнаў. 12 ліпеня сродкі меркавалася пералічыць у рэгіёны, а з панядзелка пачнецца выдача зарплаты гарнякам. Аднак канкрэтны механізм рашэння гэтай праблемы і суму сродкаў, якія маюць быць пералічаны ў рэгіёны, Лазарэнка не назваў. Учора данецкія шахцёры працягвалі блакіраванне чыгуначных магістраляў.

**ВЫДАДЗЕНЫ ОРДЭР НА АРЫШТ КАРАДЖЫЧА І МЛАДЗІЧА**

Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у былой Югаславіі выдаў ордэры на арышт лідэра баснійскіх сербаў Радавана Караджыча і генерала Радка Младзіча. Абодвух абвінавачваюць у ваенных злачынствах, якія былі ўчынены ў раёне Сараева. Ордэры выдадзены ў той момант, калі тысячы баснійскіх мусульманаў у першую гадавіну здачы Срэбраніцы сілам баснійскіх сербаў ушанавалі памяць забітых сербамі мусульманаў. Між тым сербы святкавалі, як яны заявілі, вызваленне горада.

**БЕСПАРАДКІ Ў ПАЎНОЧНАЙ ІРЛАНДЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА**

У Паўночнай Ірландыі тры паліцэйскія былі паранены ўчора раніцай у каталіцкіх раёнах Белфаста падчас сутыкненняў з удзельнікамі дэманстрацый пратэстантаў, якія займаліся рабаваннем і кідалі ў паліцыю бутэлькі з запальнай сумессю. Улады рыхтуюцца да новых успышак актаў насілля ў сувязі з акцыяй, якую рыхтуюць пратэстанты ў адзнамянаванне перамогі над католікамі ў XVII стагоддзі.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Не мінуў полтэргейст ваколіц горада Джайсалмер у індыйскім штаце Раджастхан. Там, на паўднёвым ускрайку горада, ёсць участак дарогі. Па крайняй меры тры разы на тыдзень усіх людзей, якія праязджаюць або праходзяць гэты ўчастак, абсыпаюць мокрай граззю. Хто? Пырскі ляцяць прама з паверхні зямлі. Па скарзе насельніцтва два паліцэйскія ўсю ноч дзяжурылі на тым участку. Раніцай яны з'явіліся ва ўчастак, аблепленыя гэтай граззю з ног да галавы. І ў сваім рапарце выклалі тое, аб чым было сказана вышэй. Загадка пакуль застаецца загадкай.

**«Хіндустан таймс»**

Пекінскі музей васковых фігур на плошчы Цяньаньмынь папоўніўся новым экспанатам. У адзін шэраг з Канфуцыем, заснавальнікам адзінай кітайскай дзяржавы імператарам Цінь Шыхуанам, старшынёй Мао Цзэдунам і іншымі славутымі персаналіямі 5000-гадовай гісторыі Паднябеснай стаў Дэн Сяапін. Дакладней — яго статуя, выкананая памерам крыху больш чалавечага росту.

**«Саут Чайна морнінг пост»**

Калі да стогадовага юбілею заставалася толькі шэсць гадоў, пенсіянеры з Турынска Свярдлоўскай вобласці Ганна Сямёнаўна Захарава і Аляксей Спірыдонавіч Кажэўнікаў вырашылі пажаніцца. Па словах нявесты, дзеткі ў іх ужо старэнькія і не могуць іх даглядаць. А на ўнукаў і праўнукаў надзей мала. Тым не менш трымаюцца будучыя муж і жонка бадзёра. Корпаюцца ў маленькім агародзіку і жыць збіраюцца яшчэ доўга. Вяселле прызначылі на восень, а да таго часу хочуць зразумець, ці сыдуцца характарамі. Пакуль жаніх і нявеста вечарамі сядзяць на лаўцы і ходзяць адзін да аднаго ў госці.

**ЕАН.**

## ЮБІЛЕЙ КАФЕДРЫ

У Гайнаўцы адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 40-годдзю існавання кафедры Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У ёй прынялі ўдзел вядомыя вучоныя, настаўнікі, прадстаўнікі культуры Польшчы, іншых краін. На канферэнцыі прысутнічала прадстаўнічая дэлегацыя з Беларусі. Сярод беларускіх гасцей былі вядомыя навукоўцы Леў Шакун, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Лазоўскі, Васіль Літвінка, дырэктар выдавецтва «Беларусь» Мікалай Кавалеўскі і іншыя. Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі шырокае кола праблем, звязаных з развіццём беларускай мовы і літаратуры, з іх выкладаннем і вывучэннем у Польшчы, пашырэннем кантактаў паміж вучонымі, выкладчыкамі, дзеячамі культуры нашых краін.

Галоўным арганізатарам і кіраўніком канферэнцыі быў загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Госці з Беларусі мелі сустрэчы ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку.

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# КОЛЬКІ Ў НЕБЕ ЗОР

**ШЧАСЦЕ...** Гэтым кароткім словам называем шматлікія рэаліі з нашага жыцця, якія прыносілі ці прыносяць нам асалоду. І кожны з нас шчаслівы па-свойму, прыгадваючы разнастайныя жыццёвыя перыяды, напоўненыя радаснымі хваляваннямі. Шчасце — гэта стан душы, калі вельмі востра адчуваеш сваю непадзельную злітнасць з іншаю асобаю, грамадою, краем, калі на пачуццёвым узроўні ўсведамляеш сваю здольнасць і канкрэтную магчымасць творча выявіцца і сваёй дзейнасцю стварыць хараство для сябе і іншых.

Аляксандр Шыдлоўскі спазнаў не аднойчы такія імгненні. Радасна было, што яго песня «Чараўніца» прынята збіральнікамі фальклору на Іўеўшчыне за народную.

І, вядома ж, прыемна, што створаная ў 1968 годзе песня «Колькі ў небе зор» шырока пайшла ў народ. Яе спяваюць паўсюль: у вольны час, за працаю, на святах. Лірычная, вельмі сугучная з беларускай прастораю, яна цёпла ўспрымаецца людам. Вальсавая мелодыя заваражвае, пабуджае да руху ў думках, у дзеяннях. Тэкст песні выклікае рамантычныя ўяўленні. Мара кожнага з нас — быць адначасова каханым і закаханым — выказана надта па-беларуску: проста і міла. У перыяд закаханасці і адчування ўзаемнасці абуджаецца столькі стваральнай энергіі, што здаецца: сама прырода патрабуе творчага выяўлення ад асобы. І песня падказвае: зберажыце гэтыя імгненні, утрымайце пачуццё, развіце яго, пераўвасобце ў карысную для ўсіх справу.

Так і зрабіў Аляксандр Канстанцінавіч. Пачуццё, якое ўспыхнула яшчэ ў далёкія перадваенныя гады, натхніла яго на стварэнне многіх песняў. У Беларускім ансамблі песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, у які ён паступіў у 1940 годзе на працу, ён закахаўся ў маладую спявачку Варвару Ігнацюк. Яны пажаніліся. Варвара Яфімаўна заўсёды дапамагала мужу, і, напэўна, без яе падтрымкі ён не стварыў бы звыш 200 вакальных твораў.

Песню «Колькі ў небе зор» Аляксандр Шыдлоўскі прысвяціў сваёй жонцы. Тады ён працаваў дырэктарам Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці. Нотазапіс і тэкст песні пераслаў у Мінск — у Рэспубліканскі Дом народнай творчасці, адтуль для выканання яе перадалі ў хор Палаца культуры Мінскага трактарнага завода. Трактаразаводцы ўпершыню выканалі яе пад назвай «Беларускі вальс». Песня ўвайшла ў рэпертуар прафесійных і самадзейных вакалістаў, калектываў. Але радасней за ўсё, што твор палюбіўся народам. Яго спяваюць. Адчуванне гэтага — шчасце для кампазітара.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## КОЛЬКІ Ў НЕБЕ ЗОР

*Музыка і тэкст Аляксандра Шыдлоўскага*




Колькі ў небе зор — цяжка падлічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты мая, зорка ясная,
Ты, любоў мая непагасная.

У працы і ў жыцці добра нам з табой,
Марыць і любіць з песняй маладой,
Сонца і вясна, навакол простор,
Шчасця больш у нас, як на небе зор.

Край шырокі наш, мірны, дарагі
І бягуць у даль светлыя шляхі,
Мне з табой па іх хочацца ісці
І дзяліць усё разам у жыцці.

# Усходні гараскоп на наступны тыдзень

У **КАЗЯРОГА** чакаюцца прыемныя падзеі на працоўнай ніве: ці то прыбаўка да зарплаты, ці то начальства пойдзе ў водпуск. Аб'яднаўшы сродкі з партнёрамі ці сябрамі, можна будзе пачынаць выгадны бізнес ці ўкладваць сродкі ў куплю дома, а таксама іншай нерухомасці.

**ВАДАЛЕЮ** давядзецца многа папрацаваць, каб разабраць на рабоце завалы няробленага. Вельмі вялікая няўступчывасць на дзелавых перагаворах можа пазбавіць вас добрых дывідэндаў. Дома трэба будзе вырашыць са сваёй палавінай даўно наспеўшае пытанне аб тым, хто галоўны ў сямейных справах. Але памятайце, калі акажацеся галоўным, то вам і давядзецца цягнуць увесь воз хатніх абавязкаў.

Да **РЫБ** вернецца стабільнасць у бізнесе. Не палохайцеся фінансавых страт і смела адмаўляйцеся ад спраў, якія загадзя асуджаны на правал. Лепш захаваць душэўны спакой і здароўе. Прадстаўніцы прыгожага полу трапяць пад чары таго, аб кім доўга марылі. Але не падавайце выгляду, што вы шчаслівыя, інакш ваш прыяцель вельмі заганарыцца.

У **АВЕНАЎ** будзе насычаны справамі і клопатамі тыдзень. Магчымы пераезд у новы офіс, а ваенным і тым больш — на новае месца службы, туды, дзе пасуцца алені. Павышэнне па службе таксама не выключана, як і вырашэнне працяглай спрэчкі аб праве на ўласнасць. У канцы тыдня рыхтуйцеся атрымаць дарагі падарунак, з чым і віншуем.

Планы **ЦЯЛЬЦОЎ** не збудуцца з-за ўмяшання кагосьці з блізкіх сяброў. Але гэта яшчэ лепш, калі вы збіраліся ўступіць у супрацоўніцтва з малазнаёмым партнёрам: ён бы вас ашукаў абавязкова. Дзяржаўным служачым трэба будзе падвоіць увагу на рабоце і застрахавацца ад магчымых памылак. Інакш за іх давядзецца адказваць перад строгім начальствам.

**БЛІЗНЯТАМ** можна будзе смела праводзіць фінансавыя аперацыі. Яны абяцаюць быць паспяховымі і даходнымі. Не забараняецца і папрасіць у шэфа прыбаўку да зарплаты. Яго станоўчы адказ вельмі магчымы. Вакол вас узнікне рамантычная аўра, якая не дасць магчымасці пазбавіцца раматычных прыгод.

**РАКІ** сутыкнуцца з неабходнасцю слухаць чужыя парады, але рабіць будуць па-свойму. Тады вырашэнне фінансавых пытанняў пройдзе лёгка і паспяхова. Хатнія справы забяруць у вас многа сіл, і таму адпачынак будзе вам проста неабходны. Тым больш магчымы невялікія нервовыя стрэсы, якія, што зробіш, давядзецца пераржыць.

У **ЛЬВОЎ** намячаецца прыбаўка ў фінансах за кошт выгаднай аперацыі з каштоўнымі металамі ці нерухомасцю. Уладальнікі невялікіх прадпрыемстваў змогуць атрымаць датацыю ад дзяржавы і расшырыць вытворчасць. Тыя, хто рыхтуецца да працаўладкавання за рубяжом, атрымаюць заманлівую прапанову. А асабістае жыццё раптам зробіць такі нечаканы зігзаг, што будзеце толькі здзіўляцца.

**ДЗЕВАМ** лепш за ўсё зрабіць паездку да ласкавага мора і гарачага сонца. Нераўнацэннай альтэрнатывай гэтаму падарожжу будуць новыя даручэнні начальства на рабоце, асада крэдытораў і фінансавыя праблемы. Да таго ж, здароўе патрабуе да сябе ўвагі. Так што самы час адпачыць.

Даходы **ШАЛЯЎ** перавысяць самыя смелыя чаканні. Вам вернуць доўг, пра які даўно і думаць забыліся. Даходы ад доўгатэрміновых праектаў дадуць магчымасць зрабіць інвестыцыі ў новы бізнес. А ў Шаляў з ліку маладых свае маленькія радасці — выйгрыш у азартныя гульні ці латарэю.

**СКАРПІЁНУ** давядзецца настойліва працаваць, каб такім не арыгінальным, але праверапным спосабам палепшыць свой дабрабыт. Дома прыйдзецца праявіць цярплівасць і не сарвацца ў адказ на выпады некаторых сваякоў. Вырашэнне складаных праблем давядзецца пакінуць да лепшых часоў. А ў каханні, наадварот, можна праявіць ініцыятыву, а яе дастойна ацэняць.

**СТРАЛЬЦУ** не паступяць грошы, але засмучацца няварта. Яны хутка прыйдуць з іншай крыніцы, што вас прыемна здзівіць. Не адмаўляйцеся ад сустрэчы са шчырым сябрам. Ён прынясе вам ўдачу, а супрацоўніцтва з ім гарантуе паспяховы бізнес. У чацвер намячаецца сямейная вячэра, якую вы праведзяце са сваёй палавінай, поўнасцю зачараваныя адно адным.

**Леанід КОТАЎ,**
**ІТАР-ТАСС, Дэлі.**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

***Перакладзіце на беларускую мову прыведзеныя словы і запоўніце клеткі малюнка.***

**Па гарызанталях:**
5. Колыбель. 6. Ольха. 10. Родственник. 11. Охрана. 12. Фамилия. 15. Карандаш. 16. Вклад. 17. Цепь. 20. Гусиный жир. 21. Кнутовище. 22. Фаза (луны). 23. Охапка. 28. Июль. 29. Приданое. 30. Касторка. 34. Сообщник. 36. Пятно. 37. Аист. 38. Кирпичина. 39. Декабрь.

**Па вертыкалях:**
1. Алоэ. 2. Скряга. 3. Следователь. 4. Житель. 5. Наковальня. 7. Статья. 8. Заём. 9. Улитка. 13. Спасение. 14. Чванство. 18. Шайка. 19. Каменщик. 24. Вилка. 25. Шаромыга. 26. Кабан. 27. Август. 31. Дань. 32. Пион. 33. Жажда. 35. Багор.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*



## КРЫПТАГРАМА

***Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка вядомую народную мудрасць.***




а) 1-2-3-4-5-6-7 — баявая вопратка старажытнага ваяра;
б) 8-7-9-10-11-12 — мнагалюдны сход;
в) 8-13-14-5-15 — установа, якая збірае і выстаўляе для паказу гістарычныя помнікі, сведчанні, творы мастацтва і г. д.;
г) 2-16-6-7-17 — сукупнасць дакументаў, рукапісаў, фатаграфій і г. д., што датычацца дзейнасці ўстановы або асобы;
д) 1-18-11 — рака басейна Азоўскага мора.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

## Праверце, калі ласка, адказы

**КРЫЖАВАНКА *(6 ліпеня).*** **Па гарызанталях:** 7. Лаўрэат. 8. «Абразкі». 10. Гід. 12. Юсы. 13. Спадарожнік. 15. Папуа. 16. Калач. 17. Археалогія. 18. Стаўка. 20. Дэсант. 21. Адажыо. 25. Легіён. 26. Мадагаскар. 28. Штрэк. 30. «Гапак». 31. Трансгрэсія. 32. Бах. 34. Мэр. 35. Калінін. 36. Анексія. **Па вертыкалях:** 1. Лад. 2. Трупа. 3. «Бандароўна». 4. Збожжа. 5. Палік. 6. Экю. 7. Літаўра. 9. «Іскарка». 11. Брагін. 13. Суверэнітэт. 14. «Камарынская». 19. Адраджэнне. 22. Пестрак. 23. Радуга. 24. Батарэя. 27. Пенсія. 29. Круіз. 30. Гічка. 33. «Хам». 34. Мім.

**ЧАЙНВОРД *(6 ліпеня).*** 1. Рэжысёр. 2. Ротар. 3. Рупар. 4. Рэдактар. 5. Рэвальвер. 6. Ранжыр. 7. Рэактар. 8. Рэдуктар. 9. Рэестр. 10. Раствор. 11. Рататар. 12. Рэпертуар. 13. Рэзервуар. 14. Разгар. 15. Радыятар. 16. Ракфор. 17. Разьбяр. 18. Рэспіратар. 19. Рэпарцёр.

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. № 189.** Жадаю пазнаёміцца з жанчынай да 50 гадоў. Невысокага росту, хударлявай, прыемнай знешнасці, сціплай, без шкодных звычак, добрай гаспадыняй. Любячай прыроду. Згоднай на пераезд.

Пра сябе. Рост 178 см, узрост 58 гадоў. Стройны, хударлявы, люблю прыроду. Уладзімір. *211402, Віцебская вобласць, г. Полацк-2, да п. п. II-PO 503217.*

**Аб. № 190.** Шукаю спадарожніцу для сумеснага жыцця. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. № 191.** Скарпіён, 44/157/57.

Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам, пажадана ўдаўцом. Пісаць: Магілёў-30, а/с 16.

**Аб. № 192**. Шукаю спадарожніцу жыцця. Мне 42 гады, Блізняты, жанаты не быў. Прашу адклікнуцца жанчыну з вёскі. Валодзя.

**Аб. № 193.** Жадаю пазнаёміцца з жанчынай для сумеснага жыцця. Дзеці не будуць перашкодай. Мне 33 гады, жанаты не быў. Жылля не маю. Аляксандр.

**Аб. № 194.** Крышачку цяпла, кахання, узаемаразумення. Алена — 21 год. Рост 152, хударлявага складу, без шкодных звычак. Разведзеная. Жыву з сынам. Вельмі люблю дзяцей, прыроду і вёску. Падрабязнасці ў перапісцы. Хацелася б пазнаёміцца з мужчынам добрым, не пітушчым, любячым прыроду, які б добра адносіўся да майго сына.

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачна з праясненнямі, у Гродзенскай, Брэсцкай і Мінскай абласцях — невялікія дажджы з навальніцамі. Тэмпература паветра ў Гродне і Мінску — 18—20, Брэсце — 19—21, Віцебску — 20—22, Магілёве — 21—23, Гомелі — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак — без істотных змен. Тэмпература паветра ўначы — 8—13, удзень — 18—23, на поўдні, вядома, цяплей — да 26 градусаў.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 13 ліпеня

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Чакаецца рост ціску (на 4—6 мм) і ўтрымання кіслароду ў паветры. 13 ліпеня — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах павялічваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з сардэчна-сасудзістай паталогіяй, захворваннямі дыхальнай сістэмы і страўнікава-кішачнага тракта.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца адмовіцца ад далёкіх паездак, пазбягаць псіхаэмацыянальных і фізічных нагрузак, прытрымлівацца дыеты, рабіць цёплыя гідрапрацэдуры, строга прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, і заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

***Выпускнікі 75 г.*** **ПАДЛЕСКАЙ СШ, адгукніцеся на адрас: 225910, Брэсцкая вобл. г. Маларыта, вул, Энгельса 9-а, БАЙДУК (Сяргей) Ганне Іванаўне.**
**Тэл. 2-31-29.**

**Арганізоўваецца *сустрэча выпускнікоў* 1963—1966 гг. КАРЭЛІЦКАЙ СШ 3 жніўня ў 14 гадзін, каля будынка новай школы.**

**Аргкамітэт.**




**Сардэчна віншую з днём нараджэння СТУЖЫНСКУЮ Марыю Вікенцеўну. Жадаю шчасця і дабра.**
***в. Палачаны, унук.***

**Віншуем з днём нараджэння дачушку Валю БАЛВАКА. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.**
***Мама і тата.***



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 3500.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12